


№ 4 (841) 29 студзеня 2014

www.nn.by

# Наша Ніва

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА

Заснаваная ў лістападзе 1906. Адноўленая ў маі 1991. Выдавец: Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы». Выходзіць штотыднёва, у серады

# Паўстанне супраць тыраніі

Адзін кактэйль радыкальна памяняў сітуацыю ва Украіне. Старонкі 2.

Галасуй не галасуй, а вынік адзін... Калі людзі не могуць змяніць уладу, палітыку, рэжым на выбарах або мірнымі дэманстрацыямі, урэшце яны бяруцца за камяні. Праз гэта ў свой час прайшла Заходняя Еўропа, цяпер тое самае ўпершыню здарылася ва ўсходнеславянскай краіне. Старонка 3.

REUTERS

## Палітыка

«Уплыў дэпутатаў мікраскапічны»

Ветэрынар Цюлькоў пра мясцовыя выбары.
**Старонка 6.**



## Гаспадарка

Як працуе «Еўраопт»

Сетка крамаў хутка распаўзаецца па краіне.
**Старонка 5.**



## Гутарка

«Я ведаю, як зарабляюцца грошы»

Размова з Андрэем Клімавым.
**Старонка 9.**



## Бібліятэка

Сэкс, віно і кіно

Клінаў напісаў постмадэрнісцкі раман.
**Старонка 13.**




## Канечне падпісвайся!

«Наша Ніва» з'яўляецца ў кіёсках у Мінску ў сераду ад абеду, у рэгіёнах — у чацвер. На газету можна і падпісацца — глядзі **старонку 2.**

# Адзін кактэйль усё змяніў

**Калі пратэсты сталі перарастаць у паўстанне, Януковіч пайшоў на саступкі.**

Улады спадзяваліся, што стомлены Майдан паступова сыдзе на нішто. Беларускія палітолагі ў адзін голас прадказвалі, што так і будзе. Але ўвечары 19 студзеня нехта шпурнуў кактэйль Молатава ў аўтобус спецназаўцаў, верных прэзідэнту Януковічу. І панеслася...

Паўстанне кіруецца іншай логікай, чым мірная дэманстрацыя. Калі пралілася кроў, дарогі назад няма. Тут ужо сценка ідзе на сценку, гонар не дазваляе спыніцца.

Так, у дэманстрантаў не было законных падставаў атакаваць шэрагі спецназа. Але калі яны ўсё-такі атакавалі, Украіна прачнулася ў іншай сітуацыі.

Аказалася, што разагнаць людзей з кактэйлямі Молатава ў руках уладзе так проста не ўдаецца.

Аказалася таксама, што палова краіны так ці інакш, але падтрымлівае тых, хто паўстаў. «Яны маюць права», «мы маем права» — масава можна было пачуць не толькі ў Кіеве, але і ў Палтаве ды Чарнігаве. Адзін за адным дэманстранты штурмавалі аблвыканкамы ад Чарнаўцоў да Днепрапятроўска.

Чаму ўкраінцы палічылі, што маюць права на бунт?

### Галасуй не галасуй

«Галасуй не галасуй, а вынік адзін... Калі людзі не могуць змяніць уладу, палітыку, рэжым на выбарах або мірнымі дэманстрацыямі, урэшце яны бяруцца за камяні. Праз гэта ў свой час прайшла Заходняя Еўропа», — сказаў «Нашай Ніве» Юрый, студэнт Кіеўскага ўніверсітэта тэатра, кіно і тэлебачання імя Карпенкі-Карага.

Тую самую думку, толькі інакш сфармулявала Эн Эплбаўм — амерыканская гісторык (а ў прыватным жыцці — жонка міністра замежных справаў Польшчы Радаслава Сікорскага).

**Працяг на старонцы 4.**

## Міхаіл Жызнеўскі — беларус, што загінуў за Украіну

**Ён атрымаў агнястрэльнае раненне ў сэрца.**





**Міхаіл Жызнеўскі нарадзіўся 26 студзеня 1988 у Гомелі, ён не дажыў чатырох дзён да свайго 26-годдзя.**

У Мішы Жызнеўскага цікавы лёс. Ён сышоў з дома ў 2005 годзе. Разам з трэнерам з рыцарскага клуба, які быў вінны вялікія грошы нейкім людзям, з'ехаў ва Украіну. Маці кажа, што трэнер выкарыстоўваў Міхаіла для прыкрыцця. Як бы тое ні было, але абодва засталіся жыць у суседняй дзяржаве. Доўгі час ніхто не ведаў, дзе ён знаходзіцца толькі летась бацькі знайшлі яго ў Кіеве.

Беларус уваходзіў у каманду Віталя Клічка, але пры гэтым быў актывістам украінскай нацыяналістычнай арганізацыі УНА-УНСО. Меў мянушку «Локі». Так завецца адзін з багоў скандынаўскай міфалогіі.

Паводле экспертызы, Міхаіла забілі куляй, з якой ідуць паляваць на кабана. «Ён быў забіты не з пісталета Макарава, а з пампавіка, з блізкай адлегласці, у сэрца», — растлумачыў украінскім СМІ актывіст УНА-УНСО Ігар Мазур.

Адбылося тое на вуліцы Грушэўскага, у момант, калі спецназ спрабаваў ачысціць вуліцу ад барыкад. Жызнеўскі быў сярод абаронцаў. Магчыма, нейкі адмарозак сярод спецназаўцаў зарадзіў у ружжо замест гумовай кулі паляўнічую...

«Я Міхаіла ведаў гадоў дзесяць. Пазнаёміліся, бо абодва займаліся страйкболам. Ён вельмі добры чалавек, аднасіўся дружалюбна да ўсіх. Вясёлы. Перад Майданам мы з ім амаль штотыдзень бачыліся. Ведаю, што на Майдан ён ішоў ад «Моладзі Клічко». Яшчэ разам з ім удзельнічалі ў рыцарскім руху», — кажа сябра Яўген.

Жыў Міхаіл пад Кіевам, у Белай Царкве. «У горадзе пра яго ніхто кепскага нічога сказаць не мог. Ён усім прадстаўляўся як Лёша, я ведала яго сапраўднае імя, але ён прасіў нікому яго не расказваць», — кажа яго сяброўка Юлія.

Развітанне ў Кіеве адбылося 26 студзеня, на дзень нараджэння хлопца. Прычым якое супадзенне: яму ў гэты дзень споўнілася б 26 гадоў.

На паніхіду прыйшлі лідары ўкраінскай апазіцыі Клічко і Яцанюк, Парашэнка і Цягнібок. Труну з целам хлопца тысячы людзей пранеслі праз цэнтр горада. Ужо ў аўторак нябожчыка даставілі на Радзіму, дзе яго маюць пахаваць у вёсцы Сцяг Працы пад Гомелем.

Як кажуць, сябры Міхаіла апошнія гады ён болей сябе адчуваў грамадзянінам Украіны, чым Беларусі. Але пашпарт у яго заставаўся беларускі. Ён не забываўся на свае карані, падкрэсліваў сваю беларускую ідэнтычнасць. На здымках з Майдану ён у форме УНА-УНСО, але з бел-чырвона-белым сцягам.

**Зміцер Панкавец**

## Прыватныя абвесткі

**ВІНШАВАННІ**

**Віншуем Галіну Яшчанку і Сержа Наўродскага** з нараджэннем дачкі Антосі, а Настася — з нараджэннем сястрычкі!

**Віншуем Касю і Рамана Васільевых**, а таксама ўвесь іх род, з нараджэннем дачкі Кіры. Хай расце здаровенькая! Сябры

**СЯБРОЎСКІЯ ПАДАРОЖЖЫ**

**Захапляльная вандроўка «Сталіца Падняпроўя».** У прагаграме: Касцёл дамініканаў у Княжыцах, сядзібна-паркавы насамбль Жукоўскіх у Дашкаўцы, мемарыял на месцы бітвы пад Салтанаўкай, і помнікі Магілёва — ратуша, фарны і кармеліцкі касцёлы, архіерэйскі падворак… Кантакты: 029)169-48-11, (029) 111-73-32. meliashkevich@gmail.com

**СПАЧУВАННІ**

**На 92-м годзе жыцця памерла Валянціна Адамаўна Выхота** — праведнік народаў свету, вучоны-германіст, паэтка. Выказваю спачуванні родным і блізкім нябожчыцы. Аляксей Шалахоўскі

**Сябры шчыра смуткуюць з нагоды смерці Алы Міхайлаўны Ходан**, выказваюць спачуванні родным і блізкім нябожчыцы. Светлая памяць

Шаноўная Мілана Міхалевіч! Прыміце шчырыя спачуванні з прычыны смерці бабулі Алены. Сябры

**Суполка БАПЦ спачувае нашаму сябру Уладзіміру Пятровічу Ліпскаму** з нагоды смерці жонкі Тамары. Ад імя суполкі — стараста Мікола Бамбіза

**ЖЫЛЛЁ**

**Здам 2-пакаёвую кватэру**, ст.м.Пушкінская, тэл (029) 757-94-07, Вадзім

## Апытанне на nn.by

**Па-Вашаму, ці могуць украінскія падзеі паўтарыцца ў Беларусі?**

| | | |
|---|---|---|
| Так | 842 | 18% |
| Не | 1371 | 30% |
| Так, але не хутка | 923 | 20% |
| Не дай Божа | 554 | 12% |
| Калі не будзе перамен, то так | 893 | 19% |

Усяго прагаласавала 4583.

## Самае чытанае на nn.by за 22—28 студзеня

1 Спявачка Ксенія Сітнік падтрымала Майдан

2 Украіна ў шоку ад відэа здзеку з дэманстранта

3 Селянін, палонены і раздзеты ўкраінскімі спецназаўцамі, стаў героем інтэрнэту

4 Сярод забітых у Кіеве паўстанцаў — беларус Міхаіл Жызнеўскі

5 «Беркутавец», які выставіў відэа з аголеным дэманстрантам: «Украина для русских!»

6 35-гадовую Алену Агей прызначылі намесніцай кіраўніка Гродзеншчыны

7 Імітаваць Плошчу-2010 у цэнтры Мінска будуць дзяржслужачыя

8 Лукашэнка: Беларускія рублі і капейкі пасля дэнамінацыі будуць падобныя да еўра

9 Адміністрацыя ў Чарнігаве ўзята штурмам

10 Вялікая чарга пенсіянераў стаіць насупраць Адміністрацыі прэзідэнта ў Мінску

**Не ўсё ў жыцці апошні раз**

# Дык падпісвайся!

### Падпіска праз Рэдакцыю

Цана падпіскі праз Рэдакцыю на месяц складае 24000 рублёў.

Мы рэкамендуем падпісвацца праз Рэдакцыю.

Наша сістэма дастаўкі газеты за 8 гадоў даказала сваю надзейнасць. Мы зможам даставіць Вам газету хутчэй або з той жа хуткасцю, што «Белпошта».

**Каб штотыдзень атрымліваць газету, дасылайце адрасы і грошы за газету.**

1) Просім усіх ахвотных падпісацца паведамляць у Рэдакцыю свае адрасы і тэлефоны. Гэта можна зрабіць праз: тэлефоны: (017) 284-73-29, (029) 804-12-31, (029) 356-98-29, e-mail: dastauka@nn.by, паштовы адрас: 220050, г.Мінск, а/с 537.

2) Просім у бланку банкаўскага паведамлення ці паштовага перакazу дакладна і разборліва пазначаць адрас, у тым ліку паштовы індэкс і код пад'езда.

**Банкаўскія рэквізіты:**

ПВУП «Суродзічы», УНП 190 786 828

Аддз. № 539 ААТ «Белінвестбанк», вул. Калектарная, 11, Мінск, код 739

Рахунак атрымальніка: 3012 740 628 011

Від аплаты: За газету «Наша Ніва»

### Падпіска праз «Белпошту»

**Падпісацца можна і ў кожным паштовым аддзяленні:**

індывідуальная падпіска (індэкс у каталозе — 63125) — 35800 руб./месяц;

для прадпрыемстваў (індэкс — 631252) — 42979 руб./месяц.

Пры аплаце ў банку ці на пошце, бывае, узнікаюць пытанні пра новую графу «рахунак на аплату», «счет на оплату». Кажыце, каб яе проста прапускалі. Гэты нумар стварэцца толькі пры аплаце праз сістэму ЕРІП (інтэрнэтныя плацежныя сістэмы, пры аплаце праз інтэрнэт-банкінг). Пры аплаце з пошты, банка, як звычайна, ён не патрэбны. Кажыце, што вы плаціце за газету накладзеным плацяжом, а не праз ЕРІП.

# 19-гадовая фотамадэль: «На рэвалюцыі я навучылася мыць туалеты»

«Наша Ніва» пагутарыла ў Кіеве з жыхарамі Майдану.

У жыцці 19-гадовая Кацярына — студэнтка, біёлаг-вірусолаг, а таксама фотамадэль. А на Майдане — кухарка і прыбіральшчыца. «Я раней ніколі не прыбірала. А тут навучылася мыць туалеты, чысціць цыбулю. Чаго тут саромецца?» — кажа дзяўчына.

За два месяцы рэвалюцыі Каця паспела пяўдала закахацца ў абаронцу Майдана. «Разбіў мне сэрца», — прызнаецца красуня. Цяпер у яе новае каханне, таксама рэвалюцыянер. «Ну не з «цітушак» жа выбіраць!» — кажа Каця.

Некалькі мужчын грэюцца ля бочкі з агнём. Сярод іх бацька і сын, 58 і 24 гады, з паўднёваўкраінскага прамысловага горада Запарожжа. Працуюць на адным заводзе. У бацькі заробак 2000 грывень. Гэта 2,2 мільёна беларускіх рублёў. Абураецца, калі чуе, што пратэстоўцам на Майдане нібыта плацяць грошы. «Мы заплацілі 380 грывень на дваіх за білеты, каб прыехаць сюды», — кажа мужчына.

Адзін з ахоўнікаў, 33-гадовы Сяргей, ладзіць мне невялікую экскурсію па ранішнім Майдане. «Вось гэта ялінка, якую мы вазілі да дома Януковіча [інсталяцыя з дроту з партрэтамі чыноўнікаў замест шарыкаў — «НН»]. А гэта інфацэнтр».

Сяргей прызнаецца, што ён не за тых і не за тых, а за тое, «каб было нармальна».

Метраў за дзесяць ад барыкадаў жанчынка прадае «рэвалюцыйныя» сувеніры. Майкі — 60-70 грывень, сіня-жоўтыя стужкі — па 5 і 10, магніцік — 10 грывень. Вайна вайной, а есці трэба.

«Януковіч сам сабой, як і ўсе папярэднія прэзідэнты, не ёсць адной толькі прычынай», — кажа 47-гадовы Дзмітро з аўтэнтычным украінскім чубам і вусамі. На яго думку, прычына ўкраінскіх бедаў — сацыялістычная спадчына. Украіна часткова населена людзьмі, у якіх дагэтуль у галеве Савецкі Саюз, ці нават Расійская Імперыя.

«Пакуль цалкам не зменім сістэму, не атрымаем нармальнай еўрапейскай краіны. Нас цікавіць не Украіна ў Еўропе, а Еўропа ва Украіне», — тлумачыць мужчына.

У звычайным жыцці ён кінолаг, гандлюе заатаварамі. На Майдане — ахоўнік Кіеўскай гарадской рады. Пытаюся, ці атрымлівае за гэта грошы: «Гэта не той Майдан. Грошы плацяць у Януковіча».

**Аксана Рудовіч, Кіеў — Мінск**


Дзмітро.


Кацярына.

# Ліст з Майдану: Адступаць нам няма куды

Украінскі пісьменнік **Аляксандр Ірванец** піша Уладзіміру Арлову.

Дарагі Уладзю!

Ты тэлефанаваў пазаўчора, і я абяцаў напісаць хутчэй, але жыццё цяпер такое інтэнсіўнае, што пішу я гэтыя радкі толькі ў ноч на суботу.

22 студзеня, калі ты званіў, ва Украіне адзначаўся Дзень саборнасці. У гэты дзень у 1919 годзе Заходнеўкраінская Народная Рэспубліка (ЗУНР) і Украінская Народная Рэспубліка (УНР) аб'ядналіся ў адну. Два гады таму прэзідэнт Януковіч змяніў назву — ён перанёс Дзень Свабоды з лістапада і далучыў да Дня саборнасці. Таму ў мінулую сераду адзначалася менавіта такое свята: Дзень саборнасці і Свабоды.



**Аляксандр Ірванец**

**(Олександр Ірванець) нар. 1961** — украінскі пісьменнік. Перакладаў творы В.Быкава, У.Арлова, А.Глобуса. Яго раман «Рівне/Ровно» выйшаў у перакладзе У. Арлова пабеларуску.

І менавіта ў гэты дзень на Майдане былі забітыя першыя пратэстоўцы. Захопленых у палон людзей бязлітасна б'юць, раздзяваюць на марозе, па-садысцку фатаграфуюцца, ставячы нагу на галаву ахвяры. Аднак, калі гэтыя факты публікуюцца (а ў эпоху інтэрнэту ўсё абнародуецца імгненна), у людзей падобныя факты выклікаюць не страх, а толькі жаданне дзейнічаць «разам і да канца».

Гэта праўда, Уладзю. Я бываю на Майдане практычна штодня, а з таго часу, як пачаліся сутыкненні на вуліцы Грушэўскага, я выходжу і на пачатак Грушэўскага. Простыя кіеўцы, нават жанчыны і дзяўчаты ў футрах, дапамагаюць пратэстоўцам: выкалупваюць брук і збіраюць у мяхі, якія затым падносяць на пярэдні край, для кідальнікаў. Зрабілі нават сапраўдную катапульту. А з ручнымі прашчамі хлопцы-кідальнікі спраўляюцца ўжо проста дасканала — Давід супраць Галіяфа! Удалечыні, пры стадыёне «Дынама», гараць аўтамабільныя пакрышкі, чорны дым сцелецца над Кіевам. Беркутаўцы кідаюць святлошумавыя гранаты. Гук ад іх рэзкі і непрыемны, а калі ўпадзе блізка, то і вочы пакутуюць.

Даволі шмат людзей ужо пацярпелі. Некаторыя страцілі вочы. На Майдане я бачыў хлопца з забінтаваным вокам. Іншаму адарвала кісць рукі. Але вернемся да першых ахвяраў.

Адзін з іх — армянін, ужо народжаны ва Украіне, у Днепрапятроўскай вобласці. Звалі яго Сяргей Нігаян. У інтэрнэце ёсць ролік, дзе гэты прыгожы хлопец з барадатым біблейным абліччам чытае фрагменты паэмы Тараса Шаўчэнкі «Каўказ». Яму было ўсяго 20 гадоў, з-за барады ён выглядаў трохі старэйшым. Цяпер ён — наш герой.

Другі загінулы — беларус. Міхаіл Жызнеўскі з Гомеля. Ён таксама памёр за Украіну. Я веру, што іх імёнамі ў новай Украіне будуць названы вуліцы. Існуюць жа ў нас вуліцы Георгія Гангадзэ.

Гэта ўсё да пытання, хто стаіць на Майдане. Расійская прапаганда сцвярджае, быццам там адны западэнцы, нацыяналісты, бандэраўцы. А насамрэч наша саборнасць ужо сапраўды адбылася. Рэвалюцыя наша — усеўкраінская.

(З гэтай нагоды ўспомнілася, як падчас папярэдняй, Памаранчавай, рэвалюцыі хтосьці з Партыі рэгіёнаў скрушна скардзіўся: вось бяда, сталіца Украіны ў Кіеве, калі б яна была ў Данецку, то ўсё было б інакш... )

Атмасфера Майдану вельмі энергетычная. Калі ты хоць трохі страціў надзею, засумаваў — варта выйсці на Майдан і настрой вяртаецца. Усе заведзеныя, гатовыя стаяць да канца, настроеныя на перамогу. Адступаць нам няма куды.

Я зрабіў перапынак і зразумеў, як шмат я табе яшчэ мушу пра ўсё гэта напісаць. І пра майго студэнта, цудоўнага маладога паэта Яўхіма Дышканта, на якога напалі «цітушкі» і якога разам з двума сябрамі спачатку збілі, а потым іх (не «цітушак», а трох юнакоў з вышэйшай адукацыяй, паэта і двух музыкаў!) забрала міліцыя, і цяпер ім фабрыкуюць справу па арганізацыі масавых беспарадкаў. Папярэдне іх пасадзілі на два месяцы, мы з сябрамі тупаліся-пратэставалі пад судом. І пра баязлівасць улады, пра ілжывасць афіцыйных асобаў, пра подлыя законы, прынятыя 16 студзеня — гэтыя законы абмяжоўваюць канстытуцыйныя правы настолькі, што наша прэса адразу назвала іх, пардон, «беларускімі». І пра трох лідараў апазіцыі, якія ўсё ніяк не наважваюцца на рашучыя захады — дайшло да таго, што шараговыя мітынгоўцы пасылаюць іх простым тэкстам.

І аб прыхільніках улады, якіх арганізавана звозяць ў Марыінскі парк каля Вярхоўнай Рады, плацяць ім 200—500 грыўняў у дзень, каб яны стаялі са сцягамі Партыі рэгіёнаў па сваім агароджаным мітынгу. Іх ахоўвае міліцыя, не выпускае з парку, а яны, небаракі, пералазяць цераз металічны плот, каб хоць крыху паглядзець горад — многія з іх у Кіеве ўпершыню!

Дарэчы, ёсць выдатная гісторыя: пажылая жанчына запісалася на такі вось «антымайданны» мітынг (у Кіеве таксама ёсць вярбовачныя пункты для прыхільнікаў улады), пайшла на гэты мітынг, адстаяла там цэлы дзень, слухаючы іх прамовы і песні, увечары атрымала свае 200 грыўняў і прынесла іх здаць на патрэбы Майдану! Вось ўчынак! Я б гэтую жанчыну расцалаваў.

Іншая гісторыя распавядае пра кіроўцу — шафёра аўтобуса пры адным з кіеўскіх тэатраў. Шафёр гэты — і як быццам вахлак, і як быццам бяздухоўны. А галоўны рэжысёр тэатра — інтэлектуал, эстэт, яшчэ як быццам і з паўдысідэнцкім мінулым. Але рэжысёр атрымаў тэлефонны загад з упраўлення культуры, ці адкуль там яшчэ, даць тэатральны аўтобус у распараджэнне спецназаўцаў. Ён свіснуў шафёра і паведаміў яму задачу. Той паехаў на месца збору, напакаваў поўны аўтобус міліцыянтаў у шлемах і бронекамізэльках, потым завёз іх у нейкае глухое месца, спыніўся і заявіў: аўтобус паламаўся, далей не паедзе. Вось так.

Гэтыя і падобныя прыклады паказваюць, якая яна розная, гэтая наша рэвалюцыя.

Януковіч не згаджаецца ні на якія патрабаванні апазіцыі — але ён усё роўна ўжо прайграў. Захад, праўда, даволі нерашучы з Украінай, але на адкрытае выкарыстанне сілы, на разгон Майдану ўлада ўсё ж не наважваецца. Спадзяецца, што Майдан вычарпаецца сам сабой. Але я амаль упэўнены, што гэтага не адбудзецца.

Пратэстоўцы ў многіх абласных цэнтрах на Захадзе і ў Цэнтры захапілі мясцовыя абласныя адміністрацыі. Паўстанне пашыраецца на ўсю Украіну. Абараняць лакальныя «еўрамайданы» ў Харкаве, Адэсе, Данецку і Днепрапятроўску выйшлі футбольныя фаны, ультрас. І гэта таксама вельмі паказальна.

Між тым, у мяне ўжо трэцяя гадзіна ночы, і я скончаю гэты ліст.

Трымайся там. Адпішы, што ў вас і як? Ведаю, што тых, хто выйшаў у Мінску да пасольства Украіны на акцыю падтрымкі, схапіла міліцыя. Спадзяюся, у іх таксама ўсё вырашыцца добра.

Жыве Беларусь! Слава Украіне!

**Заўсёды твой — Ірванец**

# Адзін кактэйль усё змяніў

Працяг са старонкі 2.

«Карумпаваныя алігархі, якія падтрымліваюцца расійскімі грашыма і расійскай прапагандай, аказаліся мацнейшымі, чым усе думалі, — напісала Эплбаўм у газеце «Вашынгтон пост». — У іх досыць цынізму, каб адрадзіць старую савецкую методыку выбарачнага насілля: аднаго-двух забойстваў дастаткова, каб запалохаць многія тысячы дэманстрантаў, а аднаго-двух арыштаў бізнэсмэнаў — каб нагадаць ім, хто ў доме гаспадар. Яны таксама навучыліся маніпуляваць СМІ, памнажаць свае капіталы ў заходніх фінансавых установах», — адзначае яна.

Да спецназа дэманстранты ў Кіеве ставіліся бязлітасна. «Гэта помста за Урадзіеўку» — патлумачыў адзін з украінскіх публіцыстаў. Ва Урадзіеўцы на поўдні Украіны, нагадаем, міліцыянты згвалтавалі і забілі дзяўчыну з беднай сям'і. І справу замялі — ажно народ штурмам узяў райаддзел міліцыі, толькі тады адбыўся суд.

Украінцы перасталі ўспрымаць міліцыю як народную. «Беркут» для нашага суразмоўца Юрыя — ніякая не міліцыя, а «платныя наёмнікі зажратых алігархаў», што выссалі з найбагацейшай краіны апошнія сокі.

### Паўстанне супраць тыраніі

Ці можна ўкраінскія падзеі назваць паўстаннем супраць тыраніі?

Ды якая там тыранія? Там карумпаваная дэмакратыя, скажа акадэмічны палітолаг. Але ўкраінцы ўкладаюць у выраз «тыранія» іншы сэнс: гэта калі народ не можа паўплываць на ўладу. А пісьменнік Юрый Андруховіч дадае: такі рэжым немінуча ператорыцца ў сапраўдную тыранію, калі яго не спыніць.

**Наталка Бабіна пра Майдан**

Паміж нараджэннем прарока ўкраінскай нацыі Тараса Шаўчэнкі і нараджэннем прарока беларускай нацыі Янкі Купалы — часавы адрэзак 60 гадоў. І з 50—60-гадовым спазненнем у нас адбывалася тое самае, што адбывалася ва Украіне — з'яўляліся першая газета, нацыянальная інтэлігенцыя, разуменне таго, што Беларусь таксама мае права на сваю дзяржаўнасць. Потым гэтыя падзеі пайшлі хутчэй, і мы пачалі імкліва збліжацца. Незалежнасць мы атрымалі практычна адначасова.

Беларусы і ўкраінцы розныя. Не трэба «каціць бочкі» на беларусаў. Беларусы ідуць па сваім шляху і прыйдуць туды, куды трэба.




**На фота зверху: Міхаіл Гаўрыляк сячэ дровы на Майдане.**

**Казак**

«Сімвалам Украіны стаў вось гэты казак, з якога здзекаваліся на марозе, але ён так і не схіліў перад імі сваёй галавы», — сказаў 85-гадовы Патрыярх Кіеўскі Філарэт пра Міхайлу Гаўрыляка.

Ён селянін з-пад Чарнаўцоў, які правёў на Майдане цэлы месяц, — каларытны мужчына ў кажусе і гуцульскай шапцы.

Шок выклікала відэа, як затрыманага Гаўрыляка спецназ на марозе раздзеў дагала і прымушаў стаяць голым на снезе, ды яшчэ і здымаў на відэа. Відэа выставіў у інтэрнэт адзін з міліцыянтаў, які не мог гэтага сцярпець.

Гаўрыляк стаў новым сімвалам Майдану: «Ён нават у палоне вёў сябе як казак, не схіліўся», — пішуць у інтэрнэце.

Міністэрства ўнутраных справаў прызнала факты, выяўленыя на відэа, і прынесла афіцыйныя прабачэнні.



«Гэта бандыцкі рэжым, які раскраў у краіне ўсё, што можна раскрасці. Галасы куплялі, суддзяў куплялі! А хто не прадаваўся, тых знішчалі, — усхвалявана кажа карэспандэнту «Нашай Нівы» Юрый. — Нам зараз няма дарогі назад. Або яны, або мы. Яны ўсіх нас знішчаць, калі пераможуць», — мяркуе ён.

Гэтая думка пра тое, што пасля атакі на спецназ на вуліцы Грушэўскага народ адрэзаў сабе шляхі для адступлення, паўтараецца ў многіх нашых суразмоўцаў. Адчайны супраціў дэманстрантаў прывёў да таго, што ўлада пад канец мінулага тыдня пайшла на саступкі. Гэтаму папярэднічалі пяць дзён крывавых сутычак — хоць і на адной асобна ўзятай вуліцы, а таксама распаўсюджанне пратэстаў на рэгіёны.

Юрый ад нядзелі кожную ноч праводзіць на перадавой на вуліцы Грушэўскага, хоць ён ужо на мяжы сваіх эмацыйных і фізічных сілаў. Удзень ён трохі спіць, трохі сядзіць у інтэрнэце.

### «Я ненавіджу апазіцыю»

«Я ненавіджу нашу апазіцыю, — не стрымліваецца ён. — Яны ні на што не здольныя. Калі б яны далучыліся да нас, Януковіч бы ўжо хаваўся ў Расіі».

Пад апазіцыяй ён мае на ўвазе парламенцкія апазіцыйныя партыі і іх лідараў, Арсеня Яцанюка і нават Алега Цягнібока. Хоць яшчэ нядаўна Юрый быў палявым актывістам правай і нацыяналістычнай «Свабоды».

«Ім канец! Нават рэгіянальныя кіраўнікі страшна расчараваны іх нерашучасцю. Я маю доступ да закрытага ўнутрыпартыйнага чату — пабачылі б вы, што пра іх пішуць актывісты!»

**Арсень Яцанюк**

Гэта яму Януковіч прапанаваў узначаліць свой новы ўрад. Былы старшыня Вярхоўнай Рады пры Ючанку і міністр замежных справаў у адным з урадаў Януковіча. Блізкі да алігархаў, пры гэтым арыентаваны на еўраінтэграцыю палітык. Яцанюк адкінуў прапанову, бо Януковіч і Партыя рэгіёнаў захавалі б усю ўладу і маглі б у любы момант яго сабатаваць або зняць.

Радыкалы, як Юрый, хочуць пачуць ясны заклік да паўстання. «У Януковіча ўсяго 10 тысяч спецназаўцаў, а армія за нас», — упэўнены Юрый.

Такіх як Юрый ва Украіне мільёны. Для іх Януковіч страціў усякую легітымнасць. «Гэта не прэзідэнт, які накраў столькі, што збудаваў сабе палац і зрабіў сыноў мільярдэрамі!» — кажа ён.

Моладзь згуртавалася ў фармальных і нефармальных суполках «па інтарэсах». Сярод іх «Аўтамайдан» — які паўстаў як ініцыятыва па аўтапікетаванні палацаў кіраўніцтва краіны. А таксама «Правы сектар». І групоўкі футбольных фанатаў, якія былі ў авангардзе пратэстаў ва Усходняй Украіне. І квазі-СМІ ў інтэрнэце, сярод якіх анлайн-ТВ і розныя інфармагенцтвы. Гэтыя актывісты больш не вернуцца ў мірныя пратэсты.

### «Душу й цела мы паложым»

«Душу й цела мы паложым за нашу свабоду і докажам, што мы, браця, казацкага роду» — гэта словы з гімна Украіны «Шчэ нэ ўмэрла Украіна».

На гэты момант у Кіеве загінулі 4 чалавекі. Усе яны дэманстранты. Ніводнага забітага на Майдане сярод сілавікоў няма. Людзі гінулі не толькі на барыкадах. Сярод дэманстрантаў ёсць і зніклыя — кагосьці з іх знайшлі закатаванымі ў лесе пад Кіевам. Кагосьці дагэтуль не адшукалі.

### Бандэраўцы?

Так, рухавікамі пратэсту сталі нацыянальна свядомыя ўкраінцы. Але, як піша Наталка Бабіна, там не супрацьстаянне паміж украінскамоўнымі і расейскамоўнымі. Там супрацьстаянне паміж грамадзянскай супольнасцю і карумпаванай уладай». На барыкады выйшлі людзі з абвостраным пачуццём справядлівасці. Таму сярод першых забітых былі двое львавян, але і армянін, і беларус. Якія ж яны бандэраўцы? Гэта грамадзяне Украіны ва ўсёй яе разнастайнасці. Але аб'яднаныя нацыянальнай ідэяй у новай яе форме.

### Нацыянальная ідэя

Пратэсты 2014 года адрозніваюцца ад Аранжавай рэвалюцыі ўзмоцненай нацыянальнай кампанентай. Тады гэта быў у большай ступені выступ «за лепшае жыццё». Ён адбываўся пад нейтральнымі аранжавымі колерамі. Цяперашнія пратэсты адбываюцца строга пад жоўта-блакітным, а таксама еўрапейскім сцягам.

На барыкадах нямала таксама чырвона-чорных сцягоў Арганізацыі ўкраінскіх нацыяналістаў. Рэвалюцыя ўвесь час спявае нацыянальны гімн «Шчэ нэ ўмэрла Украіна». На Новы год сто тысяч чалавек сабралася ў цэнтры горада для выканання гімна.

Цікава назіраць, як нацыянальная ідэя ў яе класічным разуменні паслядоўна распаўсюджваецца на ўсходзе Украіны. «Украінства» і там перастае ўспрымацца як этнаграфічны набор «вышыванкі, народныя песні, мова, якую разумеем, але не гаворым, варэнікі», а становіцца палітычным выбарам.

І, хоць пра тое многія забылі — так імкліва развіваюцца падзеі — першасны штуршок пратэстам даў зрыў працэсу еўраінтэграцыі. Так, пратэстоўцы бачаць Украіну еўрапейскай дзяржавай.

**Мікола Бугай**

**In memoriam**

## Генадзь Грушавы

63-гадовы грамадскі дзеяч хварэў на лейкемію.

«Грушавы адразу пасля Чарнобыля пачаў вывозіць дзяцей на аздараўленне за мяжу — у ЗША, у Канаду, Італію, Германію... — кажа гісторык, былы дэпутат Вярхоўнага Савета Валянцін Голубеў. — Яму заўжды давяралі, давяралі грошы, дапамогу — па ім было бачна, што гэты чалавек не падмане. Ён хварэў, можа гэта звязана з ягонымі шматлікімі паездкамі ў Чарнобыль. У маёй памяці ён прысутнічае як вясёлы, разумны, вельмі спакойны чалавек, выдатны выкладчык і філосаф».

* * *

Генадзь Грушавы нарадзіўся ў Мінску 24 ліпеня 1950-га. Скончыў школу №50, якая спецыялізавалася на фізіцы і матэматыцы, але



паступіў на філасофскі факультэт БДУ. У 1975-м абараніў кандыдацкую, а пазней і доктарскую дысертацыю па філасофіі.

Грушавы прыйшоў у палітыку на хвалі нацыянальнага адраджэння. Ён быў адным з арганізатараў і актыўных удзельнікаў Беларускага народнага фронту «Адраджэнне».

У 1990-м стаў старшынёй Беларускай хрысціянска-дэмакратычнай партыі, якая, праўда, праіснавала нядоўга. У тым жа годзе быў выбраны дэпутатам Вярхоўнага Савета 12 склікання, дзе ўваходзіў у фракцыю БНФ. Выбіраўся і ў парламент наступнага складу.

З-за пагрозы арышту ў сакавіку 1997-га ён быў вымушаны з'ехаць у ФРГ, дзе прабыў да сакавіка 1998-га. Вярнуўся ў Беларусь.

У 1989-м Грушавы стаў старшынёй Камітэта БНФ "Дзеці Чарнобыля", які потымператварыўся ў фонд "Дзеці Чарнобыля". За час сваёй працы фонд аказаў дапамогу больш чым 2 мільёнам жыхароў Беларусі. 160 тысяч дзяцей былі накіраваны на рэабілітацыю і аздараўленне ў многія краіны свету.

**Спачуванні праз nn.by**

Вечная памяць сп. Грушавому — выдатнаму чалавеку, які шмат зрабіў для Беларусі!
**Улад Вялічка**

Шчырыя спачуванні...
**Аляксей Шэін**

# Як працуюць гіганцкія лагістычныя цэнтры?

«Еўраопт» пабудаваў сучасны склад пад Баранавічамі.

Сетка крамаў «Еўраопт» хутка распаўзаецца па краіне, заваёўваючы цяпер ужо і райцэнтры. Больш за 150 крамаў, у якіх працуюць больш за 20 тысяч чалавек, — «Еўраопт» з ягонымі высокімі заробкамі стаў нацыянальным феноменам.

Некалькі месяцаў таму кампанія запусціла пад Баранавічамі лагістычны цэнтр, самы сучасны ў краіне. Як арганізавана праца на ім?

### Усе пельмені вязуць з Баранавіч

Карысная плошча лагістычнага цэнтра — 24 000 м², гэта як тры футбольныя палі. «70% тэрыторыі аддадзена пад «цёплы» склад, 20% — пад садавіну і гародніну, рэшту займае склад глыбокай замарозкі з тэмпературай мінус 18°С. Ёсць і камера даспявання, дзе штомесяц 3200 тон зялёных бананаў ператвараюцца ў жоўтыя і салодкія», — расказвае намеснік гендырэктара па лагістыцы Андрэй Высоцкі. 3200 тон за месяц! Уяўляеце маштаб!

Цяпер, калі лагістычны цэнтр «Еўраопта» выйшаў на поўную магутнасць, ён можа прымаць больш за 50 трэйлераў на дзень. Начальнік складавай службы Дзмітрый Мартысюк запэўнівае, што праца тут спыняецца толькі раз на год — у навагоднюю ноч.

«Мы пастаянна аптымізуем лагістыку. Напрыклад, неўзабаве закупім тэрмакантэйнеры для палет з замарожанай прадукцыяй. Гэтыя кантэйнеры могуць захоўваць тэмпературу мінус 18°С цягам сутак, таму ў адным грузавіку можна будзе перавозіць абсалютна ўсе тыпы тавараў. Уявіце, тады адна машына даставіць у краму ўсё, што цяпер прывозяць 4—5!» — хваліцца Андрэй Высоцкі.

### «За год звольніліся толькі сем чалавек»

У баранавіцкім лагістычным цэнтры сёння працуе каля 380 чалавек, але кампанія плануе наняць яшчэ 70 мясцовых жыхароў. Дзмітрый Мартысюк расказвае, што кампанія доўга эксперыментавала з формамі аплаты, пакуль не прыйшла да сістэмы матывацыі супрацоўнікаў:

«Кожны супрацоўнік атрымлівае аклад 2 мільёны рублёў. А яшчэ ёсць нязменны «грашовы пірог», які дзеліцца паміж супрацоўнікамі па выніках працы штомесяц. Назіраць за сваімі поспехамі супрацоўнікі могуць на адмысловым маніторы, дзе адлюстроўваецца выпрацоўка і заробак кожнага. Рэальна зарабіць каля 8—10 мільёнаў. Максімальны заробак у мінулым месяцы быў у штабелёра на адным з мінскіх складоў — 17 мільёнаў рублёў. Ведаеце, мы былі на складах у Швейцарыі, і там такія работнікі атрымліваюць менш».

Штабелёры — работнікі на спецыяльных машынах па перавозцы грузаў унутры закрытай прасторы.

Кіраўніцтва лагістычнага цэнтра хваліцца нізкай цякучкай кадраў — сышлі менш за 10 работнікаў за год. Дзмітрый Мартысюк тлумачыць гэта менавіта сістэмай аплаты працы: «Акрамя добрага заробку, мы і ўзнагароджваем сваіх супрацоўнікаў. У канцы кожнага года дванаццаці з іх дастаюцца падарункі, якія можна выбраць самому, напрыклад, тэлевізар ці халадзільнік».

**ТАА «Еўрагандаль»**

У 1990-я кампанія займалася аптовым гандлем, пасля сканцэнтравалася на развіцці сеткі крамаў. «Еўрагандаль» кантралююць бізнэсоўцы Сяргей Літвін і Уладзімір Васілька, прычым больш за 10 гадоў яны жывуць за мяжой і нават меркавалі атрымаць палітычны прытулак у Польшчы. У Беларусі на іх была заведзеная крымінальная справа, якая, аднак, вынікаў не дала. У 2012-м кампанія набыла банк, апроч таго, адкрывае крамы ў Расіі.

«Еўрагандаль» — самая прыбытковая прыватная кампанія Беларусі з адкрытай справаздачнасцю. За трэці квартал 2013-га чысты прыбытак склаў $34 мільёны.



Сярод высачэзных паліцаў няцяжка заблукаць.

### «Кажуць, няма робатаў. А яны тут не патрэбны!»

Інвестыцыі ў будаўніцтва лагістычнага цэнтра склалі $25 мільёнаў. Эксперт па лагістыцы Русланас Мадулевас, які перайшоў на працу ў «Еўраопт» з літоўскай гандлёвай сеткі Maxima, абураецца крытыкай лагістычнага цэнтра:

«У інтэрнэце пішуць, маўляў, на складах у Еўропе ўсё аптымізавана, там паўсюль робаты, а ў «Еўраопта» ніякіх інавацый няма. Але ёсць важныя адрозненні. У Еўропе дарагая зямля, і там склады будуюць увышыню. Карысная вышыня гэтага цэнтра — 14 м, на такой вышыні можна працаваць вілачным пагрузчыкам. А была б вышыня 25 м — і ўсё, небяспека для людзей, бо адзін неасцярожны рух — і можа здарыцца трагедыя. Неабходна ўлічваць і тып тавару. У нас усё захоўваецца палетамі: зняў палету, паставіў палету. На складзе аўтадэталяў сітуацыя іншая: уявіце 100 тысячаў найменняў, кожная ў сваёй скрыні. Людзі там проста згубяцца. Думаеце, калі б нам былі больш выгадныя робаты, мы б іх не паставілі? Усё добра пралічана».

## Аклад — 2 мільёны, а зарабіць можна да 17 мільёнаў

### «Пратэрміноўка здараецца, але не часцей, чым у астатніх

Нядаўна ў сеціве з'явілася відэа нібыта з мінскага склада глыбокай замарозкі №73 «Еўраопта». Васьміхвілінны сюжэт быў напоўнены непрывабнымі кадрамі прадуктаў, раскіданых па зямлі. Аўтары роліка сцвярджалі, што такая сітуацыя — штатная для гандлёвай сеткі. Ці праўда гэта?

Прадстаўнікі «Еўраопта» кажуць, што на відэа сапраўды ёсць некалькі кадраў з іх склада — мінулым летам камера не вытрымала надзвычайнай спёкі, і замарожаныя прадукты сапсаваліся. Іх давялося ўтылізаваць.

«Мы пастаянна кантралюем якасць прадуктаў. Лагістычны цэнтр абсталяваны сістэмай сігналізацыі аб прадуктах, у якіх падыходзіць да заканчэння тэрмін прыдатнасці. А поўная змена тавару адбываецца кожныя 10—15 дзён. У нас занадта высокія аб'ёмы продажаў, каб тавар заляжаўся на паліцах», — кажа Высоцкі.

На сховішчы садавіны можна ўбачыць і сапсаваныя плады. Асабліва многа пакрытых цвіллю лімонаў. Андрэй Высоцкі супакойвае: скрыні з лімонамі не паедуць у краму. «Праз нас праходзяць вялікія аб'ёмы садавіны і гародніны. Вядома, сярод іх ёсць і гнілыя. Калі колькасць сапсаванага тавару невялікая, садавіну і гародніну сарціруюць у краме. Калі працэнт некандыцыйных пладоў высокі, іх адпраўляюць у Мінск на пераборку, а потым развозяць па крамах. Калі ўсё зусім дрэнна, партыя вяртаецца пастаўшчыку. Што з ёю рабіць далей — яго галаўны боль», — кажа ён.

**Кірыла Хілько, фота аўтара**

## Сярэдні работнік атрымлівае на 1,5 мільёна менш за сярэдні заробак

Вінаватая методыка падліку і падаткі.

Днямі Белстат выпусціў чарговую аптымістычную справаздачу: сярэдні заробак у краіне шчыльна падыходзіць да 6 мільёнаў рублёў, у снежні ён дасягнуў $620. «Што за хлусня?» — адзін з першых каментароў на сайце «НН» да гэтай навіны.

На гэтае пытанне ўскосна адказаў сам Белстат, вылічыўшы яшчэ і медыянны заробак. У чым адрозненне? Сярэдні заробак пралічваецца найлягчэй. Агульная колькасць грошай, заробленая ўсімі работнікамі краіны — ад кіраўніка дзяржавы да прыбіральшчыцы ў дзіцячым садку, — дзеліцца на ўсіх. Вось і атрымліваецца 5 348 781 рубель ($577) у лістападзе і 5 854 664 рублі ($620) у снежні.

Медыянны заробак — заробак сярэдняга беларуса. То бок палова работнікаў краіны ў лістападзе зарабіла больш за 4 411 200 рублёў ($476), а палова — менш.

З гэтых зароблены грошай работніку трэба яшчэ сплаціць падаходны падатак (12%), а таксама зрабіць адлічэнні ў пенсійны фонд (1%).

Як вынік, на руках у сярэдняга работніка ў лістападзе засталося 3 837 740 рублёў ($414). А яшчэ паўтара мільёна знікла за кошт падаткаў і розных методык падліку.

**ЯМ**

440 тысячам беларусаў у лістападзе налічылі менш за 2 мільёны рублёў, 35 тысячам з іх — менш за 1 мільён.

260 тысяч чалавек зараблялі ў лістападзе больш за 10 мільёнаў рублёў.

## Сціслa

### «Карона» ў Барысаве

У райцэнтры адкрылася сёмая ў краіне крама сеткі «Карона», якая належыць мільянеру Паўлу Тапузідзісу. У складзе гандлёвага цэнтра крама з прадуктамі, супермаркет бытавой тэхнікі «Карона Тэхна», а таксама кавярня «Амстэрдам».

### Кожны беларус выпіў 48 бутэлек гарэлкі

За 2013 год у Беларусі было прададзена 90,5 мільёна літраў абсалютнага алкаголю (чыстага спірту). З гэтага аб'ёму можна атрымаць 452,6 мільёна бутэлек гарэлкі — у сярэднім па 48 бутэлек гарэлкі на кожнага жыхара краіны.

### Крэдыт на куплю жылля пад 46,5%

«Белгазпрамбанк» стаў першым беларускім банкам, які аднавіў выдачу іпатэчных крэдытаў на куплю жылля. Іншыя банкі захоўвалі крэдытаванне нерухомасці, аднак гаворка ішла толькі пра будаўніцтва новай кватэры. «Белгазпрамбанк» выдае грошы на 15 гадоў пад 45,5—46,5% гадавых.

### За акцыі Укантакце далі $500 мільёнаў

Заснавальнік расійскай сацыяльнай сеткі Укантакце Павел Дураў прадаў 12% акцый кампаніі. Сума ўгоды склала каля $500 мільёнаў. Укантакце ўваходзіць у пяцёрку найбуйнейшых сацсетак свету.

**ЯМ**

# У лідарах «Верцялішкі» і «Сноў»

**Карта ўраджайнасці** Беларусі за 2013 год.

Белстат апублікаваў дадзеныя аб ураджайнасці збожжа па раёнах краіны за мінулы год. Чым быў адметны 2013-ы для сельскай гаспадаркі? Усе вобласці, апроч Гомельшчыны, напаткаў неўраджай. Снег ляжаў доўга, дый глеба аказалася пераўвільготненай. У выніку агульная ўраджайнасць з гектара зменшылася з 34,5 ц да 29,7 ц. А ў некаторых раёнах, як, напрыклад, Пінскім ці Маларыцкім, згубілася да траціны зерня.

Зрэшты, падзенне было агульным і больш-менш раўнамерным. Лідары ў рэйтынгу фактычна тыя самыя, хіба што Гродзенскі раён абагнаў Нясвіжскі ў барацьбе за лідарства. Іншымі словамі, «Верцялішкі» аказаліся больш паспяховымі за «Сноў».

А вось у аўтсайдараў, гаспадарак Віцебшчыны, ураджайнасць амаль у чатыры разы горшая, чым у пераможцаў спаборніцтва.

**Ягор Марціновіч**




| **Самыя ўраджайныя раёны Беларусі** (цэнтнераў з гектара) | **Найменш ураджайныя раёны Беларусі** (цэнтнераў з гектара) |
|---|---|
| 1) Гродзенскі — 59,4 ц | 1) Гарадоцкі — 15,5 ц |
| 2) Нясвіжскі — 59,1 ц | 2) Браслаўскі — 15,6 ц |
| 3) Бераставіцкі — 51,6 ц | 3) Расонскі — 15,9 ц |
| 4) Клецкі — 49,5 ц | 4) Шумілінскі — 16,5 ц |
| 5) Мастоўскі — 49,2 ц | 5) Ушацкі — 16,9 ц |

# У Беларусі з'явіцца альтэрнатыўная служба

Апублікаваны **праект закона.**

На Нацыянальным прававым партале з'явіўся праект закона «Аб альтэрнатыўнай службе». Хто можа прэтэндаваць на праходжанне службы не ў войску, а на «грама-дзянцы»?

Паводле беларускага праекта, прэтэндэнты на праходжанне альтэрнатыўнай службы павінны асабіста заявіць, што служба ў арміі супярэчыць іх рэлігійным перакананням. Між тым, на постсавецкай прасторы адмовіліся ад гэтага вузкага крытэрыя. Напрыклад, у Расіі альтэрнатыўную службу можна выбіраць, калі знаходжанне ў войску супярэчыць веравызнанню або перакананням людзей, адзначае кіраўнік Цэнтра прававой трансфармацыі Алена Танкачова.

Ад прызыўнікоў патрабуецца заява з абгрунтаваннем прычын. Аднак канчатковае рашэнне ўсё адно за камісіяй у ваенкамаце.

Мяркуецца, што асобы без вышэйшай адукацыі будуць служыць на «грамадзянцы» 30 месяцаў (два з паловай года), з вышэйшай адукацыяй — 20 месяцаў (крыху больш за паўтара года). Гэта больш, чым служба ў войску (паўтара года і год адпаведна).

Ці ёсць у праекце закона плюсы? Эксперт бачыць пазітыў у тым, што альтэрнатыўную службу будзе курыраваць грамадзянскае ведамства — Міністэрства працы і сацыяльнай абароны. Хоць вопыт Малдовы падказвае, што куды большы эфект дае стварэнне самастойнай структуры (Упраўлення альтэрнатыўнай службы). Праваабаронцы вітаюць палажэнне, паводле якога «альтэрнатыўнікі» маюць права на атрыманне вышэйшай адукацыі.

Дакумент унесены на абмеркаванне ў палату прадстаўнікоў.

**Мікіта Капкоў**

**Дзе служыць?**

Падчас праходжання альтэрнатыўнай службы выконваюць грамадска-карысную дзейнасць у арганізацыях аховы здароўя, сацыяльнай сферы, жыллёва-камунальнай, сельскай і лясной гаспадаркі, падраздзяленнях па надзвычайных сітуацыях, а таксама добраўпарадкуюць тэрыторыі, будуюць дарогі і чыгуначныя шляхі.

# «Уплыў дэпутатаў мікраскапічны»

Сябра аргкамітэта Беларускай хрысціянскай дэмакратыі, ветэрынар Аляксей Цюлькоў расказаў пра чатыры гады дэпутацтва ў Асіповіцкім райсавеце.

**«Наша Ніва»: Вы задаволеныя тым, што пабылі дэпутатам?**

**Аляксей Цюлькоў:** Які-ніякі жыццёвы досвед. Шчыра кажучы, не так многа атрымалася зрабіць. Безумоўна, ёсць і задавальненне, і расчараванне.

**«НН»: Раскажыце.**

**АЦ:** Найбольшая справа, якую мне ўдалося зрабіць, — гэта абараніць разам з выбарцамі зялёную зону. Ішла перапланіроўка двароў, і цеплатраса мусіла легчы праз тую тэрыторыю, дзе мясцовыя жыхары самастойна высаджвалі дрэвы. Яны сталі выступаць супраць, і мне, як дэпутату, удалося дабіцца таго, што трубы паклалі праз іншае месца, хоць гэта і было фінансава нявыгадна, бо давялося ўздымаць асфальт. Калі б я быў адзін, то наўрад ці б у мяне гэта атрымалася зрабіць. Калі я толькі стаў дэпутатам, то пастанавіў, што буду рабіць усё не «дзеля людзей», а «разам з людзьмі». Было прыемна і радасна, што тады ўсё ўдалося.

**«НН»: А расчараванні?**

**АЦ:** Цяжкасцяў вельмі шмат, але мне неяк не хоча засяроджвацца на іх. У нашых людзей вельмі вялікае няверʼе ў свае сілы, яны думаюць, што ні на што не здатныя, нічога не могуць змяніць. Але гэта зусім не так. Усё ў іхніх сілах.

**«НН»: А як Вам увогуле атрымалася стаць дэпутатам?**

**АЦ:** Бо я жыў у той акрузе. Выбарцы — гэта мае суседзі. Тыя людзі, праблемы якіх я ведаю, жыву імі. Фальсіфікаваць вынікі на той акрузе проста не мела сэнсу, бо настолькі відавочнай была мая падтрымка. Супернікі ж, у тым ліку кандыдат ад улады, былі не з гэтага раёна. Выбарцы іх менш ведалі. Хаця абсалютна не чакаў, што стану дэпутатам, хоць і ведаў, што пераможу на гэтым участку.

**«НН»: Ці вялікі ўплыў у дэпутатаў мясцовых саветаў?**

**АЦ:** Уплыў самога дэпутата не як чалавека, а як дзяржаўнага дзеяча блізкі да мікраскапічнага, да арыфметычнай пагрэшнасці. Чаму я ўдзельнічаў? Бо гэта дае магчымасць кансалідаваць вакол сябе здаровыя сілы, дзейнічаць у рамках прававога поля. На вялікі жаль, у нашай краіне часта іншай такой магчымасці не здараецца.

**«НН»: Што б Вы параілі палітычным партыям і актывістам: удзельнічаць у выбарах ці не?**

**АЦ:** У мяне тут неадназначная пазіцыя. Справа ў тым, што палітычным партыям, мабыць, патрэбна быць прынцыповымі ў адстойванні сваіх пазіцый і поглядаў. Што тычыцца нізавых актывістаў, то ўсё залежыць ад іх асабістых амбіцый. Калі адчуваюць, што нешта могуць змяніць — так, дзеля «галачкі» — не.

**«НН»: А самі паўторна балатавацца збіраецеся?**

**АЦ:** На жаль, не. Справа ў тым, што зусім нядаўна я памяняў месца жыхарства. Яшчэ кепска ведаю новых суседзяў, каб рызыкаваць удзельнічаць у выбарах.

**Гутарыў Зміцер Панкавец**

Мясцовыя выбары адбудуцца 26 сакавіка. Выбары пройдуць у адзін тур. І будуць прызнаныя незалежна ад колькасці тых, хто прыйдзе на ўчасткі для галасавання. Апазіцыі гэтым разам забаронена агітаваць за байкот. Кожны кандыдат будзе мець магчымасць 5-хвіліннага выступу на радыё.


ASIA-PAPLAUSKI.LIVEJOURNAL.COM

Аляксей Цюлькоў з дачкой Наталляй.

# У Мінску дзёрзка абрабавалі абменнік

За зламысніка **прызначана ўзнагарода**.

Грошы скралі 25 студзеня з пункта абмену валют, размешчанага па вуліцы Панамарэнкі, 34 у Мінску. Касір пакінула працоўнае месца на час абеду, а калі вярнулася, пабачыла адчыненыя дзверы абменніка і знікненне грошай. Усяго было выкрадзена каля 10 тысяч даляраў ЗША, больш за тысячу еўра, звыш 13 тысяч расійскіх рублёў і 50 мільёнаў беларускіх рублёў. Жанчына неадкладна выклікала міліцыю.

Па відэа ўдалося аднавіць падзеі. Так, касір выйшла з абменнага пункта валюты, замкнуўшы яго на ключ. Праз некалькі хвілін ля ўваходных дзвярэй з'явіўся малады чалавек, які адкрыў замок, пракраўся ўнутр.

Дарэчы, банкам аб'яўлена ўзнагарода ў памеры 10% ад выкрадзенай сумы за інфармацыю, якая дапаможа знайсці зламысніка і скрадзеныя грошы.

**Прыкметы зламысніка**: рост каля 170 см, сярэдняга целаскладу, быў апрануты ў куртку чорнага колеру з капюшонам, чорна-шэрую вязаную шапку, цёмныя джынсы.

Калі Вы пазналі маладога чалавека на фота, просьба звяртацца ў Фрунзенскае РУУС Мінска асабіста або па тэлефонах: (044) 751-09-98, (029) 776-45-91, (017) 213-08-29.



Guvd.gov.by.

# Тры сяброўкі згарэлі, адзначаючы вяселле

Трагедыя здарылася ў Красным Беразе Жлобінскага раёна.

Пажар у шматкватэрным драўляным жылым доме адбыўся каля 19.00 27 студзеня. Веранда, дах і маёмасць унутры адной з кватэр былі цалкам ахопленыя агнём. Паводле слоў відавочцаў, адбыўся выбух газавага балона.

Як паведамілі ў Гомельскім абласным упраўленні МНС, у кватэры жыла 48-гадовая жанчына.

Яна працавала санітаркай, спіртным не злоўжывала. У сувязі з жаніцьбай сына жанчына запрасіла дзвюх сябровак у госці, каб адзначыць гэтую падзею.

У выніку пажару пашкоджаны дах і столевае перакрыццё будынка, сцены кватэры. Таксама закураныя сцены ў суседняй нежылой кватэры. Астатнія кватэры дома ў выніку пажару не пацярпелі.

Меркаваная прычына пажару — парушэнне правілаў абыходжання з газам.

КМ

## Кралі пад маркай мадэрнізацыі

На «Гродна Азоце» прадухілена нанясенне **шкоды на мільён даляраў**.

У чэрвені 2013 на прадпрыемстве аператыўнікі выйшлі на групу з шасці службовых асобаў, што крала вырабы з нержавеючай сталі. Завялі крымінальную справу. Але пакуль супрацоўнікі ўпраўлення па раскрыцці цяжкіх эканамічных злачынстваў УУС Гродзенскага аблвыканкама праводзілі далейшую праверку ў дачыненні да іншых начальнікаў, прадухілі крадзеж.

У адным з цэхаў прадпрыемства аператыўнікі знайшлі лішкі вырабаў і матэрыялаў з нержавеючай сталі (трубы, адводы, пераходы, фланцы, вентылі): у адным памяшканні — на суму больш як 7,6 мільярда рублёў, у другім — 1,8. Амаль мільён даляраў.

Выявілася, што ўсе гэтыя трубы незаконна спісалі пад маркай правядзення мадэрнізацыі тэхналагічнага абсталявання. Прадукцыю вярнулі на склад ужо і па дакументах. А вінаватыя атрымалі дысцыплінарныя спагнанні за грубае парушэнне службовых абавязкаў. Расследаванне працягваецца.

СМ



## Салдат тэрміновай службы са штык-нажом напаў на магазіншчыцу

Інцыдэнт адбыўся 19 студзеня Брэсце у краме «Залаты Цімір» на вуліцы Ковельскай. Параненая жанчына змагла націснуць на сігналізацыю — прыехалі міліцыянты.

Хлопец у бруднай вопратцы зайшоў у гандлёвую залу, хутка і неахайна стаў складваць прадукты і алкаголь у пакеты. Калі жанчына пацікавілася, ці ёсць у яго грошы, ён накінуўся на яе. Біў нажом у грудзі, шыю, галаву, а пасля збег.

У выніку хлопца затрымалі ў закінутым доме на вуліцы. Міліцыянтаў вывелі туды сляды на снезе. Уцекача знайшлі на гарышчы хаты. Штык-нож быў схаваны за блокам, а салдат нават не спрабаваў супраціўляцца. Прычынай такой агрэсіі стаў голад: ён не еў амаль двое сутак.

Пазней стала вядома, што гэта жыхар горада Пінска, вайсковец тэрміновай службы. 17 студзеня самавольна пакінуў вайсковую частку. У дачыненні да затрыманага заведзена крымінальная справа за замах на забойства і разбой.

За апошні час гэта другі падобны інцыдэнт у беларускай арміі. У пачатку студзеня з часткі ў Мар'інай Горцы збег спецназавец.

Кастусь Матушыч

### Сцісла

**Доктару пагражае 5 гадоў турмы**

Набліжаецца да фінішу суд па справе смерці гарадзенкі Юліі Кубаравай у сталічным медцэнтры «Экамедсэрвіс». Пракурор патрабуе для былога анестэзіёлага пяць гадоў, а для галоўнага інжынера — чатыры гады калоніі-пасялення. Былую гендырэктарку просіць пакараць двума гадамі абмежавання свабоды без накіравання ў месцы адбыцця пакарання.

**А забойцу так і не знайшлі**

Дзве прадавачкі былі забітыя ў Лідзе 15 верасня 2013 тупым металічным прадметам. З крамы тады скралі 35 мільёнаў рублёў. Да сёння забойцаў не затрымалі.

**Прапіў трактар**

34-гадовага слесара з Пружаншчыны асудзілі на паўтара года папраўчых работ за паўторную п'янку за рулём. Ён папаўся, калі ехаў нападпітку на трактары. У крыві выявілі 0,38 праміле алкаголю. Трактар, які належыць гаспадарцы, канфіскавалі.

**Забіраў па купюры з кожнага пачка**

Супрацоўнік аднаго з банкаў Магілёва за год прысвоіў больш за 660 мільёнаў рублёў. Ён працаваў касірам-кантралёрам і з кожнага пачка грошай забіраў па купюры.

**Пайшоў пад адхон**

Тры вагоны грузавога цягніка перакуліліся, 27 — сышлі з рэек 25 студзеня за шэсць кіламетраў ад пасёлка Навальня Дзятлаўскага раёна. У складзе грузавога цягніка знаходзілася 59 парожніх вагонаў з-пад калійных угнаенняў, якія належаць «Беларуськалію». Мяркуецца, што прычынай аварыі стаў злом рэйкі. Ніхто не пацярпеў.

КМ

**Вышук**



**«Елісей»**

24-гадовы пінчук знаёміўся з моладдзю, а затым прасіў іх купляць для сябе ў растэрміноўку мабільнікі і планшэты. Сам рабіў першыя плацяжы, а пасля знікаў. Даверлівым людзям прыходзілі рахункі з запазычанасцю за тэхніку. Хлопец называўся Елісеем Макеевым. Вядома, што ён так падмануў людзей у Лідзе, Пінску, Бабруйску, Віцебску, Мінску. Калі вы пацярпелі ад гэтага чалавека, звяртайцеся на 102.

# Без Рыгі і Амстэрдама




Як зменіцца карта Еўропы, **калі растануць усе ледавікі?**

Серыя мапаў, выпушчаных National Geographic Society, паказвае, як зменяцца абрысы кантынентаў, калі растануць усе льды на Зямлі.

Ледавікі, лядовыя шчыты і вечныя снягі — найбуйнейшы пасля сусветнага акіяна рэзервуар вады на нашай планеце, аб'ём якога складае больш за 24 мільёны кубічных кіламетраў. Пройдзе не менш за 5 тысяч гадоў, мяркуюць навукоўцы, перш чым ільды цалкам растануць. Але калі чалавецтва спаліць усе запасы вугалю, нафты і газу на планеце, павышэнне ўтрымання вуглякіслага газу ў атмасферы прывядзе да павышэння сярэдніх тэмператур да 27 °C (цяпер гэтая велічыня складае каля 14 °C). Многія рэгіёны стануць загарачымі для пражывання, а прыбярэжныя вобласці будуць затоплены акіянам, узровень якога падымецца на 66 метраў.

Больш за 34 мільёны гадоў таму, у эпоху эацэну, на Зямлі не было лядовых шчытоў, і ў арктычных балотах плавалі алігатары. Але паступова, па меры зніжэння канцэнтрацыі ў атмасферы дыяксіду вугляроду, які назапашваецца ў ападкавых пародах на дне акіяна, планета астывала. Першыя кантынентальныя лядовыя шчыты сфармаваліся ў Антарктыдзе, але затым распаўсюдзіліся і на кантыненты паўночнага паўшар'я. Бягучы перыяд міжледавікоўя, працягласць якога, верагодна, каля 20 тысяч гадоў, можа адзначыцца першай з часоў эацэну поўнай адсутнасцю льдоў на Зямлі.

Калі разлікі навукоўцаў дакладныя, то ў выпадку такога пацяплення Беларусь атрымае выхад да мора, а клімат стане субтрапічным.

**СГ**

# Тысячы людзей паклікалі імітаваць у цэнтры Мінска Плошчу-2010

З гэтых сцэн пачнецца **фільм «Авель».**

28 студзеня мелі пачацца здымкі кінапраекта «Авель». Ён успрымаецца як афіцыйны адказ на фільм «Жыве Беларусь», які зняў польскі рэжысёр Кшыштаф Лукашэвіч.

Паводле папярэдняй інфармацыі, адным з герояў «Авеля» з'яўляецца амерыканскі журналіст, які трапляе ў Беларусь у снежні 2010 года. Мяркуецца, што менавіта ён распавядзе «праўду» пра падзеі Плошчы.

Для рэалізацыі праекта, бюджэт якога складзе $2 мільёны, Міністэрствам культуры Беларусі і Адміністрацыяй прэзідэнта быў абраны прадзюсар Сяргей Ждановіч, вядомы як прадзюсар серыяла ПРААН «Вышэй за неба». Планавалася, што ён запросіць на здымкі галівудскую зорку. Мяркуецца, што адну з роляў выканае галівудскі акцёр Эрык Робертс



(на фота), старэйшы брат знакамітай Джуліі Робертс. У кіно ён часта выконвае ролі нягоднікаў. Дарэчы, адносіны з сястрой у яго не скла́ліся.

У якасці рэжысёра «Авеля» ў кіно дэбютуе ўкраінскі каскадзёр Віталь Васількоў, які зняўся як каскадзёр і пастаноўшчык трукаў у больш чым 300 фільмах (у тым ліку «Д'Артаньян і тры мушкецёры» і «Чалавек з бульвара Капуцынаў»).

З чаго пачнуцца здымкі «Авеля»? З кадраў дэманстрацыі. Здымкі адбудуцца цягам двух дзён на Кастрычніцкай плошчы і плошчы Незалежнасці. У прадзюсарскім цэнтры «Нонстоп Медыя», які займаецца стварэннем «Авеля», паведамілі, што ніякага ачаплення на плошчах не плануецца. Больш за тое, у навінах па дзяржаўных каналах нават мяркуюць папярэджваць грамадзян, што праезд па цэнтры горада будзе ўскладнены.

Запланаваная колькасць масоўкі складае 4000 чалавек. Зразумела, ні ў адной базе няма такой колькасці чалавек. Таму, як паведамілі ў «Нонстоп Медыя», масоўка бу-дзе фарміравацца з дзвюх крыніц. Частку аўдыторыі забяспечаць дзяржаўныя структуры, якія прывядуць на плошчу сваіх людзей. Акрамя таго, у здымках змогуць прыняць удзел усе ахвотныя. Што праўда, іх праца не будзе аплочвацца.

**Глеб Кандрацьеў**



# Сяброўку Абрамовіча вінавацяць у расізме

Даша Жукава знялася на **непаліткарэктным крэсле.**

Сяброўку расійскага алігарха Дашу Жукаву абвінавацілі ў расізме. Нагодай для гэтага стаў яе фотаздымак, выкарыстаны ў якасці ілюстрацыі да гутаркі з Жукавай у фэшн-блогу Buro 24/7.

На фотаздымку дзяўчына сядзіць на крэсле, зробленым ў выглядзе звязанай цемнаскурай жанчыны. Падліў алею ў полымя і той факт, што фота з'явілася ў Дзень Марціна Лютэра Кінга, які адзначаецца ў трэці панядзелак студзеня і ёсць афіцыйным выхадным у ЗША.

Многія заходнія СМІ надрукавалі гнеўныя артыкулы, у якіх называюць учынак расісцкім і сэксісцкім.

**Яўген Крэйда**



**Камертон Сяргея Ваганава**

# Цяжкасці перакладу

Дзве высновы вынікаюць з нядаўняй сустрэчы Аляксандра Лукашэнкі з кіраўнікамі некаторых беларускіх СМІ.

Першая — беларусы жывуць як ніколі добра.

Другая — грошай у дзяржавы няма.

Першую выснову падказала старэнькая мама сп. Кісяля, кіраўніка буйнога тэлеканала. Хто б сумняваўся...

Другую выснову зрабіў сам Лукашэнка, адказваючы на слушную развагу кіраўніка БелаПАНа Алеся Ліпая пра гаротны стан беларускіх пенсіянераў.

Адкуль ён узяўся, гэты дзіўны парадокс?

Апошнім часам неяк незаўважна знік з прэзідэнцкага лексікона і, адпаведна, з нарматыўнай лексікі беларускіх ідэолагаў «рынкавы сацыялізм». З'явілася «мадэрнізацыя». Насамрэч мадэрнізацыя? Ці чарговы камуфляж крызіснага стану беларускай эканомікі?

Як добра было ў 2008 годзе, калі крызіс абрынуўся на ўвесь свет! Тады самую простую і прадбачлівую характарыстыку сітуацыі таксама даваў Аляксандр Рыгоравіч. Калі давесці ягоную тагачасную думку да абсалютнай яснасці, то сёння забугорнага капіталізму ўжо не павінна быць. Але ж ёсць — як заўжды, збіраецца ў Давосе, пацяху выкарасквaецца з крызісу. А што мы? Хто зараз зацягвае нас у багну крызісу ўсё глыбей і глыбей?

На гэтым фоне зноў згадваецца Савецкі Саюз.

Чаго не было ў «краіне перамогла сацыялізму», дык гэта крызісаў. Ну, і ўсяго астатняга, акрамя танкаў і ракет. Дзяржава не вытрымала і таксама перастала быць. Разам з грашыма яе даверлівых грамадзян.

Зрэшты, у Савецкім Саюзе я сутыкаўся з Крызісам у адной сельскай школе. Такую мянушку вучні далі настаўніку, які быў вельмі худы і любіў даваць вострым каленцам пад зад. Яшчэ ён прапанаваў не карміць двоечнікаў школьным абедам, пакуль яны не вывучаць ягоны ўрок геаграфіі. Абед складаўся з дзвюх крупінак у ячным крупніку, кавалка хлеба, бульбы, калі адшкадуе нехта з бацькоў, а на свята — яйка...

## Магчыма, таму крызіс і не страшны, што звыклы

Крызісам, мяркую, таго настаўніка празвалі не толькі за падабенства з карыкатурамі з савецкіх газет. Буржуйскі крызіс быў ягоным канькам. Разам з мільёнамі літраў малака, што выліваліся на зямлю, і тонамі расціснутых трактарамі апельсінаў. У выніку атрымалася так, што разам з буржуямі напалову галодныя вучні зненавідзелі свайго настаўніка. І калі скончыўся Савецкі Саюз, аказаліся ў поўнай разгубленасці ад перамогі «загніваючага капіталізму»...

Сёння гэтым вучням за шэсцьдзясят. І што ж яны чуюць у тлумачэнне таго, што адбываецца і як далей жыць? Дзевятнаццаць гадоў чулі пра «рынкавы сацыялізм», на дваццатым годзе — пра «мадэрнізацыю». А грошай няма. Крызіс...

Даўно не глядзеў «Контуры», але добра памятаю, як у самы разгар сусветнага крызісу спадар Аверкаў дасылаў свае фірмовыя пасы паліталагу Юрыю Шаўцову і эканамісту Аляксандру Чубрыку: адкажыце, калі ласка, ну што, што будзе з намі, і як нам быць? Было, аднак, уражанне, што адказы Аверкаў ведае. Ці ведае, якімі яны павінны быць. І ва ўсякім разе ведае, якімі яны быць не павінны.

І ўсё ж, вылузваючыся з-пад акцёрскай высакамоўнасці вядучага, эксперты намалявалі не толькі дабратворную карціну нашай абароненасці і незалежнасці ад крызісу, але і выціснулі з сябе нейкі намёк.

Намёк просты: трымайцеся за працоўныя месцы і зацягвайце паясы. Пры гэтым, паводле тагачаснага выказвання Шаўцова, надзвычай важная салідарнасць усяго грамадства. Ніякіх сацыяльных пратэстаў, бо зусім прападзем.

Прайшло амаль шэсць гадоў. Аднак падобна на тое, што хутка шмат каму трымацца не будзе за што, а ў паясах давядзецца пракручваць яшчэ не адну дзюрку. Галоўнае, каб гэта былі паясы вернасці. Вернасці рэжыму, які клапатліва абароніць ад любых крызісаў...

Загвоздка ў тым, што яна, гэтая вернасць, уселася толькі ў нашу свядомасць, а ў жыцці ўсё па-іншаму, і нават наадварот.

Жыццё наша цалкам складаецца з парадоксаў. Ці ж не парадокс, што дзяржава абкладае грамадзян, нават бюджэтнікаў і пенсіянераў, усё новымі падаткамі, хаця сама вінаватая нам? Узгадайце хаця б савецкія даўгі... Мы нават не задумваемся над тым, што краіна, дзе за прычыненне калецтва ад міліцэйскага дручка плоцяць больш, чым за яго лячэнне, знаходзіцца ў стане перманентнага крызісу. Магчыма, таму і не страшны ён, што звыклы. А вось думка пра грамадскую салідарнасць заслугоўвае больш глыбокіх меркаванняў.

Дзеля чаго? Дзеля якіх святых мэтаў?

Мо дзеля незалежнасці?

Але як пазбавіцца яшчэ аднаго парадоксу, народжанага Лукашэнкам на вышэйзгаданай сустрэчы: незалежнасць — «слабалудства» ці захапляльная перспектыва праз 30 гадоў?

...У мяне на паліцы з сакавіка 1994 года стаіць кніга Лешэка Бальцэровіча з аўтографам і партрэтам на вокладцы. Мне падабаецца погляд «бацькі польскіх рэформ», ён шчыры. І назва падабаецца — «Wytrwać».

Дзеля чаго?

На жаль, у нас дагэтуль цяжкасці з перакладам.

*kamerton_41@mail.ru*

# Андрэй Клімаў: **Я ведаю, як зарабляюцца грошы**

Мы сустрэліся дома ў Андрэя Клімава і, уладкаваўшыся ў працоўным кабінеце, сярод вялікай колькасці літаратуры, пагутарылі пра палітычныя гульні, бізнэс і тое, **як у адзін момант можна згубіць усё**.

**Андрэй Клімаў:** Колькі вам цукру?

**«Наша Ніва»: Адну лыжку, калі ласка.**

**АК:** А я пасля турмы не магу піць гарбату з цукрам. Там пілі моцную гарбату, а я па звычцы свабоднага чалавека піў яшчэ і з цукрам, прычым вельмі шмат клаў. У выніку ў мяне развілася першая стадыя дыябету.

**«НН»: Прайшоў ужо не адзін год пасля Вашага апошняга тэрміну, а ўспаміны не даюць спакою?**

**АК:** Ды такое застаецца на ўсё жыццё. Але так нават цікавей жыць. Зараз усё ў мінулым. Я займаюся дзецьмі, вяду здаровы лад жыцця, вывучаю замежныя мовы і займаюся творчасцю.

**«НН»: Вы пабывалі ў розных жыццёвых сітуацыях, гэты інтарэс да прыгод з дзяцінства?**

**АК:** Вось ведаеце, хоць камуністы забралі ўсё, але мары яны забраць не змаглі. Таму ў дзяцінстве я марыў шмат вандраваць, бачыць свет і паступіць у Маскоўскі лінгвістычны інстытут.

**«НН»: Вы раслі ў багатай сям'і?**

**АК:** Мая сям'я была бедная. Калі мне было 2 гады, бацькі развяліся. Дапамогі ад бацькі не было. Нарадзіўся я ў Беларусі, бацька — рускі, маці — украінка. У дзяцінстве матуля размаўляла дома толькі па-ўкраінску, яна вельмі любіла ўкраінскія песні, калыханкі па-ўкраінску спявала. Яна была сіратой, жылі на яе заробак інжынера ў 90 рублёў. Шмат аб чым даводзілася толькі марыць. Вялікім святам было, калі пасля здачы аб'екта ладзіўся банкет і маці ў сурвэтках прыносіла мне бутэрброды з вэнджанай каўбасой.

**Андрэй Клімаў**

нарадзіўся 17 верасня 1965 у Мінску. У 90-х — адзін з самых вядомых бізнэсменаў Беларусі, уласнік банка і газеты, адзін з самых маладых дэпутатаў Вярхоўнага Савета 13-га склікання. Клімаў быў удзельнікам падрыхтоўкі імпічменту Лукашэнкі. Пасля гэтага меў 3 турэмныя тэрміны: 1998 — крадзеж і прадпрымальніцкая дзейнасць без ліцэнзіі, 2005 — арганізацыя масавых пратэстаў, 2007 — абраза прэзідэнта. На гэты момант Андрэй Клімаў — жанаты чалавек, бацька ўжо 3-х дарослых дзяцей, вядзе здаровы лад жыцця, і, як кажа сам, калі б не турмы, было б і 5 дзяцей. Паліглот, валодае дзевяццю мовамі, на чарзе кітайская. У дзяцінстве марыў пабываць на трыбуне Нацыянальнага сходу Францыі часоў Вялікай Французскай рэвалюцыі.



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

**«НН»: То бок Вы беларус у сэрцы, а ўкраінец па крыві?**

**АК:** Менавіта так. Усё ж такі мая ўпёртасць ды выбуховы характар — гэта ўсё ўкраінская кроў.

**«НН»: Для чаго Вы пайшлі ў палітыку і сталі дэпутатам ВС?**

**АК:** Я бачыў, што краінай будуць кіраваць чыноўнікі, а ёй павінны кіраваць бізнэсмены. Павінна існаваць пагадненне

## У турме найцяжэй прывыкнуць да адсутнасці жанчын

ў кіраванні дзяржавай паміж бізнэсменамі і ўладай.

Бо менавіта бізнэсмены даюць працу людзям і плацяць падаткі, яны ведаюць, што неабходна людзям. У ЗША існуе пасада лабіста ў Кангрэсе, людзі там і прадстаўляюць інтарэсы буйных карпарацый.

**«НН»: Пачакайце, ці добра, калі бізнэсмены кіруюць прыняццем дзяржаўных рашэнняў у сваіх мэтах?**

**АК:** Усё залежыць ад мэтаў. Калі мэта — падвышэнне эканамічнага ўзроўню, гэта адзінае правільнае рашэнне. Самае страшнае толькі тое, калі прэзідэнт становіцца бізнэсменам, калі ён на нас з вамі пачынае зарабляць і прадае свае ўказы. Толькі кампраміс можа стварыць дэмакратычны рэжым. Без гэтага немагчыма. Дыялог можа быць толькі з разумнымі людзьмі, якія могуць пайсці на кампрамісы.

**«НН»: Андрэй, Вы былі ледзь не самым багатым чалавекам у Беларусі, у Вас быў буйны будаўнічы бізнэс. Але з чаго Вы ўсё ж такі пачыналі?**

**АК:** Што казаць, у дзяцінстве была зайздрасць, што іншыя дзеці штосьці маюць, а я — не. Я памятаю, як кожны дзень матуля перад тым, як легчы спаць, запісвала, колькі яна выдаткавала грошай за дзень. Быў час, калі я працаваў у галоўным упраўленні пажарнай аховы. І калі я аднойчы прыйшоў у сталовую пасля рэформы Паўлава і пабачыў, як скокнулі цэны, я напісаў заяву і звольніўся з працы. Сябры на той момант займаліся бізнэсам, а я пайшоў ім проста дапамагаць, зарабляць грошы. Давялося шмат памятляцца па Саюзе перад тым, як я прыйшоў да ўласнага бізнэсу. Проста зразумеў, што я магу.

**«НН»: Праз што Вам давялося прайсці ў 90-х перад тым, як наладзіць свой бізнэс?**

**АК:** Праз крадзеж на прадпрыемстве, калі мяне рабавалі свае ж людзі, праз наезды крымінальнікаў, праз няведанне бухгалтэрыі. Давялося самому ісці на курсы бухгалтараў. Прайшоў нават праз патрабаванні хабару ў дзяржаўных установах. Дзякуючы сваім прынцыпам я не парушаў закон і імкнуўся плаціць падаткі.

**«НН»: А ці магчыма было тады рабіць бізнэс і не адмовіцца ад уласнага сумлення?**

**АК:** Можна было, я ж не адмовіўся. Я ведаю, як зарабляюцца грошы. Калі мне трэба было мець наяўную валюту, якую я набываў на рынку, я падумаў: а навошта, калі Нацбанк дазваляў мець абменныя пункты? Я са сваім бухгалтарам, здаў іспыт па законах, і мы атрымалі ліцэнзію на валютныя пункты. Калі ў мяне з'явілася некалькі дзясяткаў валютных пунктаў, я падумаў: а чаму б не адчыніць свой банк? Я зарабляў не толькі на бізнэсе, але і на законах, бо я іх ведаў. І ўсё было ў межах гэтых законаў.

**«НН»: А ўсё ж такі Вас абвінавацілі ў крадзяжы, як гэта было?**

**АК:** Я пачынаў з прыватных замоваў, дзе добра зарабіў на будаўніцтве завода «Кока-колы». Але быў у мяне і дзяржпадрад. Так я аднойчы набыў зямлю пад Мінскам для будаўніцтва. Тады я пазнаёміўся з будучым мэрам Мінска — Ярмошыным, ён чуў пра мяне і ведаў, што я багаты чалавек. Пры гэтым усе мае сумы былі чыстыя, гэта не грошы бандытаў, якіх тады паўсюль хапала. Памятаю, калі я займаўся гандлем кватэрамі, мне прыносілі торбы з грашыма ледзь не ў крыві, было і такое. Я не ведаў, ці буду я жывым пасля такой угоды. І тады Ярмошын прапанаваў мне пабудаваць дом для дыпламатаў, за які мяне тады і пасадзілі.

**«НН»: У Беларусі ўвогуле магчыма будаваць свой бізнэс без патранажу дзяржаўных органаў?**

**АК:** Магчыма, калі гэты бізнэс цяжкі для ўлады, куды яны ніколі не палезуць. Напрыклад, вытворчасць будаўнічых

## Чыж, Пефціеў? Гэта не бізнэсмены, а менеджары пры ўладзе

матэрыялаў. Уласны бізнес дзяржавы: нафта, газ, іх перапрацоўка і гандаль, банкаўскі бізнэс, гандаль прадуктамі, а ў Мінску — будаўніцтва жылля. Гэта іх бізнэс, туды яны нікога не ўпусцяць.

**«НН»: Пефціеў, Чыж і іншыя бізнэсмены, якую ролю яны займаюць у гэтай гульні?**

**АК:** Ну якія ж яны бізнэсмены, яны проста менеджары пры ўладзе. Не спадабаецца нешта, праявяць яны самастойнасць — адразу ўсё ў іх забяруць. І яны гэта ўсведамляюць.

Я ведаю Чыжа, ён не дурны чалавек, у 90-х ён пачынаў з «Трайпла» і ўсталёўкі вокнаў, грошы ім даваліся вельмі цяжка. Яны мучаюцца, ім цяпер вельмі цяжка.

**«НН»: Вы мелі «Банк Андрэя Клімава», «Газету Андрэя Клімава», чаму Вы выкарыстоўвалі сваё імя і прозвішча ў брэндах? Жаданне пацешыць самалюбства ці стратэгічны крок?**

**АК:** Хутчэй за ўсё, недахоп розуму і фантазіі. Дарэчы, у свеце такі падыход у брэндах вельмі распаўсюджаны. Выкарыстоўваць сваё прозвішча — вельмі адказна. Пасля ўжо сябры пачалі казаць, што крок вельмі разумны для перспектывы палітычнай барацьбы. Але гэта я зразумеў ужо пазней.

**«НН»: Я гляджу, што маючы ў жыцці ўсё, Вы заўсёды імкнуліся паспрабаваць нешта новае, пагуляцца ў новую цікавую гульню, часам легкадумна. Я памыляюся?**

**АК:** А чаму б і не? Мне было толькі 30 гадоў. Калі мне прапанавалі імпічмент, я ўсцешыўся. О, магчымасць шашкай памахаць, цікава. Калі б я ведаў, чым гэта скончыцца, я б бег з таго Вярхоўнага Савета падскокваючы і толькі б пяткі відаць было (*смяецца*). У нас жа тады дэмакратыя была, кожны дзень у ВС прыходзіў прэзідэнт, ціснуў мне руку і казаў: «Ну ты ж разумееш, вы павінны мне дапамагаць». Весела было. Цяпер узгадваю, якім дурнем быў.

**«НН»: Падчас турмы праз якія самыя складаныя выпрабаванні Вам даводзілася прайсці?**

**АК:** Складана першыя 3 месяцы. Я лічыў, што ўжо не выйду. Пасля прыняў рэальнасць і жыць стала лёгка. Шахматы, чай, кіно. Сукамернікі да мяне ставіліся нармальна: я ж дэпутат! Яны дзівіліся, што я не пайшоў па шляху супрацоўніцтва з уладай.

**«НН»: З чым за кратамі было складаней за ўсё звыкнуцца?**

**АК:** З адсутнасцю жанчын, у першую чаргу, а ўсё астатняе не так істотна (*смяецца*).

**«НН»: А чаму Вы не з'ехалі? У Вас былі і прапановы па працы, і проста магчымасці з'ехаць з Беларусі.**

**АК:** Мне вельмі цікава тут.

**«НН»: Чым цяпер займаецеся?**

**АК:** Найбольш дзецьмі, здароўем, бо яго вельмі сапсавалі. Імкнуся не губляць формы, кансультую сяброў па бізнэсе, гэтым і жыву. Вывучаю мовы, спадзяюся прынесці краіне карысць у будучыні. Я вельмі люблю Еўропу і хачу, каб Беларусь была там. Бо гэта рай для творцаў, інтэлектуалаў, развіцця чалавека. Пішу некалькі кніг, якія пакуль не збіраюся публікаваць, каб не атрымаць пазачарговы тэрмін. Я хачу пакінуць пасля сябе інтэлектуальны ўнёсак. Пра памылкі і поспехі краіны трэба пісаць.

**Гутарыла Вольга Гарапучык**

# Пра гарадзенскі Шлісельбург

**Анатоль Сідарэвіч** дапаўняе спецвыпуск «Нашай Нівы» «Беларуская Гародня» (№2).

Калі найлепшы сябар беларускіх гісторыкаў Сямён Шапіра (думаю, такі тытул ён заслужыў) уголас заявіў, што гэта з ягонай падачы працы ў Горадзенскім універсітэце былі пазбаўлены дацэнт Андрэй Чарнякевіч і прафесар Вячаслаў Швед, у маю душу закраліся сумневы: няўжо Шапіра (чыноўнік да мозгу касцей, тое, што на бальшавіцкім навамоўі называецца спец) чытаў напісанае гэтымі гісторыкамі, калі не чытаў, дык хоць бы гартаў нашумелы краязнаўчы навучальны дапаможнік «Гродназнаўства»?

Яны ж, чыноўнікі, амаль пагалоўна не чытаюць кніг, калі гэта не ўваходзіць у іх службовыя абавязкі. Мае сумневы развеяў прафесар В. Швед. Сапраўды, Шапіра на сустрэчы ў ГрДу, дзе ён зрабіў заяву аб сваіх заслугах перад беларускай гістарычнай навукай, нават не мог успомніць загаловак кнігі. Ягонай памяці дапамог прысутны на той сустрэчы спец.

Увагу ўлады С.Шапіры на «Гродназнаўства» звярнулі «спяцы» з ГБ. Іх абурэнне выклікала тое, што ў «Гродназнаўстве» не паказаны перыяд гісторыі, пазначаны імем Лукашэнкі. І тут слова «спец» я ўзяў у двукоссе нездарма, бо яны, гэбэшныя «спяцы», як відаць, нават не гарталі царскія навучальныя дапаможнікі для школ, гімназій і семінарый. Калі б пагарталі, дык убачылі б, што ў некаторых навучальных кнігах пачатку XX ст. (а іх было мноства) не паказана не толькі царавание Мікалая II, але нават ягонага бацькі і дзеда. Але ў нас, трэба думаць, палітычны рэжым страшнейшы за царскі. У пэўнай меры ён копія бальшавіцкага.

Другою прычынаю абурэння «спяцоў» было тое, што «Гродназнаўства» 2012 года выдадзена за мяжою і выйшла ў знакамітай недзяржаўнай «Гарадзенскай бібліятэцы». Тут і праўда ёсць з чаго абурыцца. Уроцлаўскае выданне — сапраўдная кніга-падарунак: і фармат, і якасць паперы ды друку, і мастацкае афармленне проста выдатныя. Папярэднія два выданні кнігі, надрукаваныя ў РБ, выглядаюць у параўнанні з уроцлаўскім аж надта ўбога, паказваюць, якія жмінды горадзенскія чыноўнікі, калі справа датычыць рэалізацыі культурна-асветніцкіх праектаў. Вельмі нявыгаднае для тутэйшай улады параўнанне.

Станоўча ацэньваючы «Гродназнаўства», мушу сказаць, што ў цэлым я не ў захапленні ад кнігі, бо гэта адно толькі навучальны дапаможнік, а не гісторыя горада ва ўсебаковым асвятленні. Да гісторыі Гародні, пэўна, яшчэ далекавата. Таму трэба вітаць тую працу, якую робяць горадзенскія гісторыкі і краязнаўцы, выдаючы і «Гістарычны альманах», і «Гарадзенскі палімпсест» ды ўзбагачаючы гродназнаўства як дзялянку гістарычнай навукі новымі матэрыяламі. У гэтым святле нельга не адзначыць і публікацыю Андрэя Павача «Беларуская Гародня» ў №2 «Нашай Нівы» за 2014 год.

Не буду аналізаваць публікацыю Андрэя Павача. Пастараюся дапоўніць адзін яе сюжэт — «Турма».

Шмат чытаўшы пра бальшавіцкія лагеры і турмы, чытаўшы напісанае вязнямі лукашэнкаўскіх калоній і турмаў, згадваючы пісанае Фёдарам Дастаеўскім, Аляксандрам Герцэнам, Антонам Чэхавым ды нашым Аляксандрам Уласавым пра турмы і ссылкі царскае пары, я ўжо не дзівіўся, калі чытаў пра тое, што тварылася на пачатку XX стагоддзя ў Адэскай турме, а дакладней — у Адэскай турэмнай рэспубліцы. Улетку вязні гэтае турмы не тое што камера з камерай размаўлялі перастукваннем і мелі магчымасць размаўляць праз форткі — яны выстаўлялі ваконныя рамы, ляжалі ды грэліся на падваконніках або сядалі на іх ды праз краты звешвалі ногі «на вуліцу». З камеры ў камеру (дакладней — з акна ў акно, з форткі ў фортку) па «тэлефоне» (доўгай вяроўцы з грузілам) перадавалі запіскі, харчы, тытунь і ласункі. Нават трапіўшы ў ізалятар, парушальнік рэжыму «меў тысячу магчымасцяў падтрымліваць зносіны з таварышамі». А што адміністрацыя турмы? — спытае лукашэнкаўскі вязень. «Адміністрацыя, — чытаю ў кнізе, — пасля марных спробаў перашкодзіць такому спосабу зносін паміж вязнямі, вымушана была прымірыцца з гэтым «непарадкам», як і з перастукваннем».

Ведама, цярпець такую вольніцу нават ліберальнае турэмнае начальства не магло. Найбольш актыўных вязняў, завадатараў і ініцыятараў адпраўлялі з Адэсы ў іншыя турмы, дзе панавалі жорсткія парадкі. Адна з такіх турмаў знаходзілася ў Горадні. Ужо назва, якую далі ёй палітычныя вязні («гарадзенскі Шлісельбург»), пра нешта ды кажа. Тут да палітычных звярталіся на «ты», тут іх — чаго яны ў іншых турмах і ўявіць не маглі — білі. Тут іх стрыглі, як і крымінальнікаў: дагала, «пад нуль». За адмову стрыгчыся, як і за іншыя парушэнні, кідалі ў карцар, пазбаўлялі перапіскі, спатканняў, пісьмовых прылад і кніг.

Курцам тут была сапраўдная пакута: бо «перадача і выпіска з лаўкі тытуню не дазвалялася».

Турэмная бібліятэка была бедная: «амаль выключна кнігі з геаграфіі, з тэхнікі, з агракультуры, з жывёлагадоўлі». «Воля» тут здавалася вязням нечым тагасветным. Тут адміністрацыя старалася максімальна ізаляваць палітвязня ад палітвязня. Абвясціць і распачаць нейкую калектыўную акцыю пратэсту (галадоўку, напрыклад) тут было немагчыма, бо «рэжым гарадзенскай турмы выключаў магчымасць змовы».

### Шапіра нават не мог успомніць загаловак кнігі, якую крытыкаваў

І вось пасля амаль пяці месяцаў «гарадзенскага Шлісельбурга» адзін з вязняў абвясціў галадоўку, пры наглядчыку выкінуў у парашу (звярніце ўвагу, чым кармілі) «цукар, масла, сыр і да т. п.». Гэта была ці не першая галадоўка ў горадзенскай турме. І тут пачалося не менш цікавае. На другі дзень галадоўкі ў камеру да палітвязня прыйшоў таварыш (намеснік) пракурора, на трэці дзень вязню, пазбаўленаму спатканняў, далі магчымасць сустрэцца з сястрой, а на пяты дзень у турму да галадоўшчыка прыехаў губернатар Пётр Сталыпін...

Што было з галадоўшчыкам далей — пра тое можна прачытаць у кнізе, якая ў 1946 годзе выйшла ў Нью-Ёрку і якую мне са Злучаных Штатаў пераслала наша журналістка і грамадская дзячка Валянціна Трыгубовіч. Адмыслова пераслала мне, бо кніга мае загаловак «Успаміны сацыял-дэмакрата». Напісаў жа яе Пётр Гарві. Думаю, што ўспаміны гэтага вядомага меншавіцкага дзеяча прыдадуцца Андрэю Павачу для далейшай распрацоўкі тэмы «Гарадзенская турма», асабліва калі аўтар будзе параўноўваць рэжым гэтай вязніцы за царом, за «першымі» і «другімі» немцамі, за Польшчай, за «першымі» і «другімі» саветамі, а таксама пад уладай гаранта правоў і свабод чалавека і грамадзяніна. І калі будзе (гэтага ніяк не пазбегнуць) пісаць пра вешальніка Пятра Сталыпіна і найлепшага сябра беларускіх гісторыкаў Сямёна Шапіру.



# Сапраўдныя прычыны, па якіх беларускі выбіраюць абцасы

На сайце NN.BY публікаваўся артыкул Дзяніса Марціновіча «Пяць прычын, па якіх беларускі выбіраюць абцасы». Цікава было даведацца меркаванне мужчыны пра гэта! Але ж самі жанчыны дакладней адкажуць, чаму яны абіраюць абцасы.

**Міф першы.** Прыгажосць: «назіранне за дзяўчынай на абцасах... — эстэтычная асалода для любога хлопца».

Па-першае, не для любога. Далёка не ўсе мужчыны «вядуцца» на гламурных прыгажунь. Ёсць хлопцы, якія хочуць бачыць у сваёй дзяўчыне партнёрку (па паходах, па жыцці), а не лялечку на абцасах, якая пасля паўгадзіны хадзьбы кажа, што стамілася.

Апранаюцца жанчыны... для іншых жанчын! Ну, ці для сябе любімых.

А псіхолагі кажуць: першае, на што звяртаюць увагу хлапцы, пабачыўшы дзяўчыну, — гэта яе вочы.

**Міф другі.** Вертыкальныя лініі: «Абцасы аптычна павялічваюць рост гаспадыні».

Іван Ефрэмаў у сваім творы «Лязо» апісваў у эвалюцыйным ключы ідэал жаночай прыгажосці. Доўгія ногі ў такой тэорыі выдавалі ў жанчыне добрую бягуню, адпаведна, павялічвалі верагоднасць выжывання яе самой і яе дзяцей. Але спытайце любую жанчыну, ці жадала б яна быць вышэйшай за свайго мужчыну?

**Міф трэці.** Традыцыя: «Малыя дзяўчаткі бачаць, што на абцасах ходзяць іх старэйшыя сёстры, мамы..»

Вось гэта праўдзівая і асноўная, на мой погляд, прычына, чаму беларускія жанчыны абіраюць абцасы.

**Міф чацверты.** Савецкая традыцыя.

З гэтым можна паспрачацца. Узоры «сэксуальнага» адзення савецкія жанчыны маглі пабачыць хіба што ў рарытэтным часопісе «Бурда».

**Міф пяты:** няроўнасць паміж мужчынамі і жанчынамі: «Выбіраючы абцасы, жанчыны міжволі прымушаюць мужчын ісці на саступкі».

Тут культывуецца думка, што мужчынам не падабаюцца разумныя жанчыны. Далей спадар Марціновіч прыводзіць у прыклад студэнтак, якія, нічога не ведаючы, апранаюцца на экзамен, як перад выхадам на стрып-сцэну.

Жанчыны абіраюць абцасы, каб быць прыгожымі. Ідэалы прыгажосці закладаюцца асяроддзем і СМІ, з часам мяняюцца.

Цікава, што ў Старажытным Егіпце абцасы насілі і мужчыны, і жанчыны. У Еўропу абцасы трапілі з Персіі ў XVI стагоддзі і спачатку былі элементам мужчынскага строю...

**Алена Ляшкевіч**

**«Нашто беларусы будуюць замкі?» (№47)**

«Пыл у вочы»… Бо ні розумам, ні станам, ні ўчынкамі, ні добрым густам не адрозніваюцца нашыя жыхары. Каменныя вежы, вокны з байніцамі, пазалочанымі купаламі, надзейныя сцены, за якімі можна схаваць крывыя ногі, тлустыя целы і рэдкія валасы з ранняй сівізной (ад зайздрасці і скупасці). Не крыўдуйце на праўду!

**Таццяна Карэліна, Мінск**

### Так бачыць паэт

* * *

Заснежанае сонца слепіць вочы,
І забываеш жахі чорнай ночы,
Не згадваеш папрокі ды праблемы,
Не існуе ніякае дылемы.
Душа пяе, імкнецца ў вышыні,
Але...
Чадзяць ў паветра чыстае машыны...

**Юрась Півуноў, Магілёў**

### Паштовая скрынка

**Сяргею П. з СІЗА№1 Мінска.** Вашы літаратурныя творы публікаваць не будзем. У іх замала непаўторна Вашага — таго, чаго ніхто іншы не пераўжывае. Вы нібы чужымі вуснамі гаворыце — тэлевізійнымі штампамі. Лепш пачніце пісаць з успамінаў пра ўласнае дзяцінства, пра дзеда, якога Вы згадваеце, пра тое, што Вас найбольш уражвала. Старайцеся пісаць той мовай, «якой гаварыў дзед».

**Маладой аўтарцы.** Спачатку — адукацыю атрымайце, не кідайце ўніверсітэта. Калі пісаць, то старайцеся найперш апісаць чалавека, якую асабістую гісторыю. І толькі з героя пераходзьце на культурную падзею. Бо што там адкрылася выстава, то мала цікавага. Цікавы лёс, які стаіць за выставай.

**Фотафакт**




**90 тысяч даляраў за пояс**

У Слуцк прывезлі выкупленыя ў мінскага калекцыянера слуцкі пояс. Ён каштаваў 90 тыс даляраў. Пояс набылі за ахвяраванні жыхароў і бюджэтныя сродкі адміністрацыі Слуцка.

## У Купалаўскім рыхтуюць новую прэм’еру — «Дон Жуан»

П’есу Мальера **пераклаў Андрэй Хадановіч**.

Ажыццявіўшы пастаноўку «Пана Тадэвуша», Купалаўскі тэатр рыхтуецца да наступнай прэм’еры. Днямі ў калектыве пачаліся рэпетыцыі спектакля «Дон Жуан».

Андрэй Хадановіч пераклаў камедыю Жана-Бацiста Мальера з французскай мовы на беларускую. Для пастаноўкі спектакля з Санкт-Пецярбурга запрошаны рэжысёр Анатоль Праўдзін.

З Беларуссю яго сям’ю звязваюць даўнія сувязі. Праўдзін — сын вядомага рыжскага рэжысёра Аркадзя Каца, які неаднаразова бываў у Мінску. У Рускім тэатры дагэтуль ідуць чатыры спектаклі Каца («Ідэальны муж», «Сунічная паляна», «Праўда — добра, а шчасце — лепш» і «Пігмаліён»).

Ролю дона Жуана выканае Павел Харланчук. Слугой Сганарэлем, які ўвесь час яго вучыць, стане Віктар Манаеў.

У спектаклі задзейнічаныя народныя артысты Беларусі Мікалай Кірычэнка і Арнольд Памазан, заслужаныя артысты Аляксандр Падабед і Сяргей Краўчанка, а таксама Святлана Анікей, Раман Падаляка, Аляксандр Малчанаў, Ганна Хітрык.

Прэм’ера «Дон Жуана» запланавана на 22 сакавіка.

**Мікіта Капкоў**

# Энтузіясты ратуюць унікальныя беларускія фільмы

**Сёння ў мінскім Музеі кіно кожны ахвотны можа пабачыць рэдкія стужкі 1920-х, 30-х, 60-х гадоў. Гэта стала магчымым дзякуючы Андрэю Скуратовічу: з яго ініцыятывы збіраюцца грошы на выкуп правоў, рэстаўрацыю і алічбоўванне старых стужак.**

«Высветлілася, што ў расійскіх архівах ёсць беларускія стужкі 20-х, 30-х, якія ў нас ніхто ці амаль ніхто не бачыў, — расказвае спадар Скуратовіч. — Некаторыя хацелася паглядзець — тага ж «Кастуся Каліноўскага» ці «Палескіх рабінзонаў». Сабраліся зацікаўленыя людзі, разам з якімі ўдалося аплаціць алічбоўванне і рэстаўрацыю, дамовіцца з праваўласнікамі. Удаецца вярнуць 6—7 фільмаў на год. У 2012-м мы пашырылі нашае кола, бо зацікаўленасць у людзей была: напрыклад, у Беларусі не засталося копій нават фільмаў 70-х. Ці іншая сітуацыя: у беларускім архіве засталася адзіная копія фільма — у плёнкі рэсурс роўны 150 праглядам, а пасля яна становіцца непрыдатнай. Цяпер выкупленыя намі стужкі накіроўваюцца ў Музей кіно, у архівы тэлеканалаў, Тэатральна-мастацкую акадэмію...

**«НН»: А як асабіста Вы заняліся старым беларускім кіно?**

**АС:** Пачалося з таго, што я шукаў арыгіналы беларускіх падпольных фільмаў 1960-х. На пачатку 60-х у Мінск з Піцера прыехаў цэлы курс кінаінжынераў, якія разам адвучыліся, умелі здымаць, манціраваць. А Мінск 60-х пасля Піцера быў месцам змрочным. І гэтыя хлопцы пачалі здымаць сваё кіно — нешта сярэдняе паміж КВЗ і капуснікам. Ніякай крамолы там не было, аднак і «зверху» іх ніхто не кантраляваў. І дзейнічалі яны аж да сярэдзіны 1970-х: у 1968-м іх прышчынулі першы раз, былі допыты ў КДБ, пераtrусы, аднак пасля фільмы здымаліся да 1974-га. Удзельнік тых падзеяў цудам захаваў арыгінал аднаго з фільмаў. З яго і пачалося.

**«НН»: З таго, што ўжо ўдалося вярнуць з Расіі, якія фільмы, на Вашую думку, заслугоўваюць найбольшай увагі?**

**АС:** Цікавы перыяд — 1920-я, да канчатковага станаўлення сацрэалізму. Гэта і «Лясная быль», і «Кастусь Каліноўскі». Ці, напрыклад, фільм 1937-га «Салавей», які пасля быў забаронены. Або «Зялёныя агні», «Несцерка», цэлы пласт беларускай анімацыі — каля 20 мультфільмаў. Ці выдатны фільм «Пушчык едзе ў Прагу».

**«НН»: Што ў найбліжэйшых планах?**

**АС:** Фільм «Шчасце трэба берагчы» 1958 года, ён вельмі запатрабаваны гледачамі, бо там можна ўбачыць Мінск канца 50-х, яшчэ не цалкам адноўлены.

Ці першы гукавы фільм «Першы ўзвод». Па сюжэце гэта, канечне, найжахлівейшая прапаганда, аднак зняты ён па-беларуску і зняты да моўнай рэформы 1933 года, таму беларуская мова там рэдкая па чысціні.

Ёсць цэлы пласт дакументальных стужак 60-х. У Мінску былі дзве кінастудыі: адна — «Беларусьфільм» на праспекце і другая — у Чырвоным касцёле, якая адказвала за дакументальнае кіно. Свае дакументальныя фільмы на той студыі здымаў, сярод іншых, Караткевіч. Праіснавала такая магчымасць да падзеяў у Празе ў 1968, пасля студыя была скасавана.

**«НН»: Колькі каштуе рэстаўрацыя стужкі?**

**АС:** У сярэднім 550 расейскіх рублёў за адну частку (дзесяць хвілін). Да таго ж, даваенныя фільмы трэба чысціць ад грыбка і цвілі. Такім чынам адзін фільм на паўтары гадзіны каштуе каля 150 даляраў.

**Юрась Ускоў**

**Паўдзельнічаць у вяртанні беларускага кіно**

можа кожны. Падрабязная інфармацыя на сайце: minsk1067.livejournal.com/609861.html

## «Калі нацыя раптам знікне, яе можна будзе адрадзіць па тваёй кнізе»

Ларыса Сімаковіч паставіла спектакль «Вандроўнік» памяці беларускага «перасоўніка» Міхася Раманюка. У брэжнеўскія часы, калі нацыянальнае мусіла знікнуць, саступіць месца савецкай культуры, Раманюк абышоў усю Беларусь, збіраючы народныя касцюмы, творы народнага мастацтва. Вынікам вандровак стаў агромністы альбом «Беларускае народнае адзенне». Народная культура была яго жыццём: калі здарылася Чарнобыльская аварыя, Раманюк працаваў у Хойніцкім раёне. Праз дзесяцігоддзе, у 1997-м, ён памёр ад анкалогіі.

Рэжысёр і харэограф Ларыса Сімаковіч, аўтарка спектакляў пра Багдановіча, Мулявіна, зацікавілася постаццю Міхася Раманюка. У яе спектаклі ён увасоблены ў вобразе Вандроўніка, шукальніка сэнсу жыцця. «Калі нацыя раптам знікне, яе можна будзе адрадзіць па тваёй кнізе», — кажа Вандроўніку Птушка, якая ўвасабляе і музу падарожніка, і душу народа.



**МК**

**Сцісла**

**«Грэмі» за найлепшую песню атрымала 17-гадовая Lorde**

Цырымонія ўручэння прэміі «Грэмі» прайшла ў Лос-Анджэлесе. Кампазіцыя Royals, выкананая сямнаццацігадовай новазеландкай Lorde, заваявала прэмію ў намінацыі «Найлепшая песня — 2013». Lorde выпусціла дэбютны сінгл Royals у сакавіку 2013. «Грэмі» ў намінацыі «Найлепшая рок-кампазіцыя» атрымаў Пол Макартні за Cut Me Some Slack. Ён таксама выступіў на сцэне са сваім партнёрам па The Beatles Рынга Старам. Яны атрымалі «Грэмі» за асаблівы ўнёсак і дасягненні ў музычнай індустрыі.

**Рок-бар «Крылы» ў Мінску зачыняецца**

З уласнікамі мінскага рок-бара не працягнулі дамову арэнды. Афіцыйная прычына: у ДК МТЗ, дзе месціцца бар, пачынаецца капрамонт. Але сапраўдная прычына, на думку арт-дырэктаркі, можа быць тое, што ў бары праводзіліся канцэрты беларускіх выканаўцаў. Тут гралі N.R.M., Кася Камоцкая, Аляксандр Памідораў, Таццяна Беланогая. «Крылы» праіснавалі год. Цяпер кіраўніцтва ўстановы шукае новае месца.

**Стаў вядомы склад журы прэміі Гедройца**

У журы ўвайшлі філосаф Валянцін Акудовіч, пісьменнікі Уладзімір Арлоў і Альгерд Бахарэвіч, перакладчыца Малгажата Бухалік, прэзідэнт Польскага ПЭН-клуба Адам Паморскі, старшыня Саюза беларускіх пісьменнікаў і галоўны рэдактар часопіса «Дзеяслоў» Барыс Пятровіч, паэт і перакладчык Андрэй Хадановіч, літаратуразнаўца Ціхан Чарнякевіч. Ганаровым старшынёй традыцыйна з’яўляецца польскі пасол Лешэк Шарэпка. Цікава, што Акудовіч, Арлоў, Паморскі, Пятровіч і Хадановіч сталі сябрамі журы трэці год запар.

**МК, СБ**

# «І з тых часоў сядзеў маскаль ціха...»

450 год назад — 26 студзеня 1564 — адбылася Ульская бітва. Гэта была другая, пасля Оршы, па значэнні перамога войска ВКЛ у змаганні з Масквой у XVI стагоддзі.


Войска ВКЛ другой паловы XVI ст. Графіка Юліуша Косака.

Нагадаем, як развіваліся падзеі. Ішла ў самым разгары Інфлянцкая вайна. Ад 1562, пасля сканчэння перамір'я, распачаліся ваенныя дзеянні па ўсёй лініі мяжы паміж ВКЛ і Маскоўскай дзяржавай. 15 лютага 1563 пасля маштабнай аблогавай аперацыі маскоўцам здаўся Полацк. Захоп значнага кавалка тэрыторыі Вялікага Княства Літоўскага адразу перахіліў баланс сіл у вайне на карысць маскоўцаў. Ліцвіны мусілі пайсці на ганебныя перамовы, каб спыніць экспансію і як след падрыхтавацца да адпору непрыяцеля. У снежні 1563 г. — студзені 1564 у Маскве знаходзілася літоўскае пасольства на чале з Юрыем Хадкевічам. Дамовіцца, аднак, аб перамір'і на прымальных умовах яму не ўдалося. У Маскве не хацелі ісці на саступкі, выхваляючыся сваім поспехам пад Полацкам і пагражаючы новым ударам па беларускіх землях ВКЛ.

І сапраўды, паралельна з дыпламатычнымі перамовамі маскоўскае войска рыхтавалася да новай выправы. У Смаленску шыкавалася вялізнае войска на чале з Васілём Сярэбраным. Другая групоўка павінна была выйсці з Полацка. Яе ўзначальваў новапрызначаны полацкі ваявода Пётр Шуйскі і налічвала яна, па свежых падліках расійскага даследчыка В. Пенскога, каля пяці тысяч вайскоўцаў.

Для Вялікага Княства наступіў «момант ісціны». Калі страту Полацка можна было спісаць на нечаканасць нападзення і непадрыхтаванасць да яго ў зімовы час, то паўтарэнне падобных падзей праз год азначала б элементарную нездольнасць дзяржавы абараніць свае землі пад магутным напорам праціўніка. Таму літвіны рыхтаваліся як маглі да любога павароту падзей.

У Лукомлі стаяла малалікае войска пад камандай гетманаў Мікалая Радзівіла Рудога і Рыгора Хадкевіча. Яно складалася з некалькіх ротаў найманых жаўнераў і кволага паспалітага рушання, якое не прывыкла збірацца ўзімку. Гетманы мелі пад рукой тысячы паўтары баяздольных жаўнераў.

Добра папрацавала выведка, паведаміўшы, што недалёка знаходзіцца маскоўскае войска. Гетманы рушылі наперад, у Чашніках атрымалі звестку, што роты на чале з Рыгорам Бакам і Баркулабам Корсакам уступілі ў бой з маскоўскім авангардам. Асноўнае маскоўскае войска было непадалёк.

Супярэчлівымі з'яўляюцца звесткі крыніц аб падрыхтаванасці да бою маскоўскага войска. Адказ на гэтае пытанне з'яўляецца найважнейшым для разумення ходу і характару бітвы. Ці было маскоўскае войска падрыхтавана да бітвы, ці быў для яго напад войска ВКЛ нечаканым?

Крыніцы сведчаць, што бітва адбылася позна ўвечары. Ліцвіны напалі на маскоўскі лагер. Маскоўскія жаўнеры не мелі пры сабе зброі і не стаялі ў баявых шыхтах: «Царовы ж ваяводы не толькі даспехі (не) паспелі на сябе ўскласці, але і ў палкі стаць не паспелі». Летапіс абвінавачвае вайскоўцаў у нядобрасумленным выкананні абавязкаў: «...ішлі не па гаспадарскім загадзе, не старожка і не ў палках (не ў баявым страі), і даспехі свае і зброю везлі ў санях». Храніст Аляксандр Гваньіні сведчыць, што «на Маскву ўдарылі, якая была неасцярожная і не змагла падрыхтавацца да абароны, а нашы, не даючы ім апомніцца, без адпачынку секлі любога, хто трапляўся пад руку».

Такім чынам, удар ліцвінаў аказаўся для маскоўцаў поўнай нечаканасцю; маскоўцы не здолелі апамятавацца і аказаць супраціўленне. Пераломным момантам сечы сталі ўцёкі з поля бою параненага камандзіра маскоўскага войска, выдатнага военачальніка Шуйскага. Яго забіў ці то шляхціч Каспар Швяйкоўскі, ці то нейкі полацкі селянін сякерай — крыніцы кажуць парознаму. Пасля гэтага пачалася ўсеагульная паніка. Жаўнеры ВКЛ гналіся за ворагамі цэлых пяць міляў. Шмат маскоўцаў патанула ў рэках і загінула ад рук сялян з найбліжэйшых вёсак.

У бітве загінуў альбо быў узяты ў палон амаль увесь камандны склад маскоўскага войска — 150 чалавек, у асноўным ваяводы, тысяцкія, сотнікі. Звычайным «дзецям баярскім» удалося ўцячы, карыстаючыся цемрай. Аднак у гэтым і заключаўся галоўны эфект — гібель галоўнакамандуючага зрабіла вялікае ўражанне на маскоўскага цара Івана Грознага. Атрыманы палон стаў важным аргументам у далейшых перамовах з Масквой.

Кіраўніцтва ВКЛ выкарыстала перамогу пад Улай у прапагандысцкіх мэтах напоўніцу. Акцэнтавалася ўвага перадусім на тым, што ліцвіны справіліся з маскоўцамі ўласнымі сіламі, без дапамогі палякаў. Каралеўскі двор у Польшчы, а ўслед за ім і шырокія грамадскія колы даведаліся пра бітву найперш са знакамітага «ліста Радзівіла». Радзівіл стварыў візію адкрытага, сумленнага бою, жадаючы дамагчыся максімальнага эфекту пры ўздзеянні на чытача. Радзівілаўскі ліст неўзабаве, намаганнямі Мікалая Крыштафа Радзівіла Сіроткі, быў надрукаваны ў Нямеччыне. Розгалас пра Ульскую бітву разнёсся па ўсёй Еўропе.

У гэты час у Варшаве на каронным сойме адбываліся перамовы аб заключэнні уніі паміж Каронай і Княствам. Адной з прычын распачынання ўнійных перамоў было пагаршэнне ваенна-стратэгічнага становішча ВКЛ у выніку страты Полацка. Разгром маскоўцаў пад Улай усё пераварочваў і даваў ліцвінам так патрэбную ініцыятыву ў вайне. Канцлер ВКЛ і віленскі ваявода Мікалай Радзівіл Чорны згарнуў перамовы, спаслаўшыся на важныя справы ў ВКЛ. Заключэнне уніі было адцягнута.

Праз некалькі дзесяцігоддзяў аўтар «Хронікі Літоўскай і Жамойцкай», пішучы пра бітву пад Улай 1564 г., падсумаваў: «І з тых часоў сядзеў маскаль ціха...».



**Андрэй Янушкевіч**
гісторык, аўтар кнігі «Вялікае Княства Літоўскае і Інфлянцкая вайна 1558-1570 гадоў».

**Інфлянцкая (Лівонская) вайна**

(1558—1583), вайна паміж Маскоўскай дзяржавай, з аднаго боку, і Лівонскім ордэнам, Вялікім Княствам Літоўскім (потым Рэччу Паспалітай), Швецыяй за кантроль над Лівоніяй. Для Масковіі гэта была вайна за выхад да Балтыкі. Падчас вайны моцна пацярпелі ўсходнія беларускія землі. Маскоўскае войска ўзяло Полацк, які ўтрымлівала 16 гадоў. Аслабленае вайной, ВКЛ вымушана было падпісаць Люблінскую унію з Польшчай. Вайна скончылася Ям-Запольскім мірам, Полацк, Веліж і Лівонія вярнуліся ў склад ВКЛ.

**Гібель Шуйскага**

Польскі храніст Мацей Стрыйкоўскі у паэме, прысвечанай бітве на Уле, апісаў гібель Пятра Шуйскага. Слаўны ваявода, аўтар перамог над казанскімі татарамі і над шведамі ў Лівоніі, ратуючыся, папрасіў селяніна адвезці яго жывым у Полацк. Аднак селянін, спакусіўшыся на залаты ланцуг, які Шуйскі меў на шыі, забіў ваяводу сякерай. Калі пра гэта стала вядома Радзівілу, піша Стрыйкоўскі, князь заплакаў ад сораму, загадаў годна пахаваць Шуйскага, а селяніну як марадзёру адсекчы галаву.

# Babarykin? no

# Маракоў: Мінск — горад без пераемнасці

Выйшла другая частка даследавання «Галоўная вуліца Мінска. 1880—1940 гг.». «Наша Ніва» пагутарыла з аўтарам кнігі.

**«Наша Ніва»:** Вы займаліся бізнэсам у Расіі, пісалі прозу, даследавалі сталінскія рэпрэсіі. Што падштурхнула заняцца гісторыяй галоўнага мінскага праспекта?

**ЛМ:** Працуючы над тамамі, якія прысвечаны рэпрэсаваным, заўважыў, што ў асабістых справах часта сустракаецца вуліца Савецкая. Таму вырашыў стварыць даведнік па рэпрэсаваных, які там жылі (500 чалавек). Калі пачаў вывучаць біяграфіі, зразумеў, што трэба ведаць іх жыццё да Кастрычніцкага перавароту. Пакрысе, год за годам, пачаў вяртацца ў мінулае. Урэшце спыніўся на 1880 годзе.

**«НН»: Чаму?**

**ЛМ:** Гэты год стаў пераломным для Мінска. Да таго часу цяперашняя сталіца Беларусі з'яўлялася даволі ціхім, правінцыйным горадам. Як толькі праз горад праклалі чыгунку, пачаўся прамысловы рост. За 30 гадоў Мінск змяніўся. Па якасці дамоў, узроўню архітэктуры цэнтр Мінска не надта адрозніваўся ад Берліна, Санкт-Пецярбурга, Масквы.

А 1940 год быў выбраны таму, што паміж даваенным і пасляваенным Мінскам амаль няма пераемнасці. Гэта два розныя гарады.

**«НН»: Як ішла праца над кнігай?**

**ЛМ:** Каб не зваляцець ад аб'ёму інфармацыі (кніга налічвае некалькі сот тысяч лічбаў), разбіў Савецкую вуліцу на 14 кварталаў.

Першы том ахопліваe 5 кварталаў: ад пачатку вуліцы Савецкай (Захар'еўскай) да Камсамольскай (Багадзельнай). Другі том прысвечаны астатнім 9 кварталам.

Праца ішла больш за тры гады па дзесяць — пятнаццаць — дванаццаць гадзін у суткі без выхадных і адпачынкаў. Сотні фотаздымкаў, ілюстрацый (большасць з іх каляровых), сотні лёсаў (звычайна трагічных). Часам дзеля аднаго ці двух фотаздымкаў даводзілася ехаць у Маскву, Вільню, Варшаву.

Вуліцу ўмоўна падзяліў на 28 участкаў. У кожным імкнуўся адшукаць сенсацыйную гісторыю з нечаканым фіналам.

Напрыклад, набываючы квіткі на «Пана Тадэвуша» ў Купалаўскі тэатр, цяжка ўявіць, што яго будынка магло зусім не існаваць.

1881 датавана прашэнне калежскага рэгістратара Акуліча ў Мінскую гарадскую ўправу. Акуліч прасіў дазволу паставіць каля Аляксандраўскага сквера «палатняны балаган для змяшчэння кароў для продажу публіцы сырадою».

На шчасце, ідэю адхілілі, а ў 1888 пачалі будаваць Мінскі гарадскі тэатр.

**«НН»: Вы збіраецеся працягваць свае даследаванні мінскіх вуліц?**

**ЛМ:** Цяпер ідзе праца над кнігай пра плошчу Свабоды. Часавыя прамежкі — такія ж самыя (1880—1940). Выбар тлумачыцца проста. З пачатку XVI стагоддзя плошча Свабоды з'яўлялася цэнтрам горада. А таму разам з даследаваннем вуліцы Савецкай дазволіць скласці ўяўленне пра стары Мінск.




**У кнігарнях**

Даведнік Леаніда Маракова «Галоўная вуліца Мінска. 1880—1940 гг.» будзе каштаваць каля 1800000 рублёў.

# Напрыклад, вазьмі ката…

Наталка Бабіна. Апавяданне.

— Напрыклад, вазьмі ката, — запатрабаваў ён катэгарычна.

— Куды вазьмі? — не зразумела я.

— Не куды, а када, — павучыў ён мяне. — Нада гаварыць правільна.

Я кіўнула. Правільна дык правільна. Вучы-вучы. Што мне да цябе і тваіх слоў, сізы бомж? Не дзеля таго я сыходзіла з дому, каб звяртаць увагу на сізага бамжа.

Сышліся на ноч на станцыі ў Ратамцы — ну, паслухаю пра ката.

За сценамі свістаў сівер. Праз дзве гадзіны, у тры ночы, станцыю закрыюць, і да пяці-трыццаці, да першай электрычкі, прыйдзецца сядзець на вуліцы.

— Вазьмі ката, — працягваў ён настойваць. — Он ідзеальна приспособлен к жызні в условіях чрэзвычайнава господства человека над прыродай!



Наталка Бабіна

Пісьменніца. Родам з Заказанкі (Брэсцкі раён). Жыве ў Ждановічах пад Мінскам.

Я не вельмі прыслухоўваюся.

Як цябе там клічуць? Валянцін? Віталій? Вітаю і віншую! Цудоўнае імя, якім бы яно ні было. Яшчэ паўтары гадзіны нам можна быць у станцыі, і трэба максімальна назапасіць цяпло. Бо завіруха на дварэ, і цяпло спатрэбіцца. Таму вяшчай, я не сыду.

— Абраті вніманіе, как устроены ево усы. Это ідзеальный пеленгатор, каторый...

Кот чаротавай масці, які стаў непасрэднай прычынай натхнёнага спічу Валянціна / Віталя (я бачыла, як ён употайкі даставаў чарніла з рукзака), не могучы больш трываць блох, моцна і энергічна пачухаўся. Сумеўся нягжэчных паводзінаў. Скруціўся ў клубочак у кутку пад батарэяй, схаваў пыску ў лапы. Бачыць нічога не хоча, чуць нічога не чуў.

Ты вяшчай, вяшчай, Віталій.
Бо нам трэба жыць надалей.
І круціць трэба педалі,
Каб не памярці.
Замятае сівер далі,
Мы нічога не чакалі,
Хоць ніколі не звярталі
З вернага пуці.

Прабачце. Недарэчна.

Вершы трэба пісаць або геніяльныя, або ніякія.

Ой.

Міліцыянты!

Гэтага яшчэ...

Малады лейтэнант аддзяліўся ад патруля і накіраваўся ў наш бок.

Я напружылася.

Куды тут бегчы, калі што?

«Уходіте. Счас будет операція по зачістке от бомжей, — лейтэнанцік стаяў спінаю да нас і гаварыў нягучна. — Понялі, нет? Уходіте, і подальше».

Дзякуй табе, лейтэнанцік. Нам два разы паўтараць не трэба. Мы змыліся адразу ж. Кот, ідэальна прыстасаваны да жыцця ва ўмовах панавання чалавека, застаўся пад батарэяй чакальнай залы станцыі Ратамка.

Падалышэ ухадзіць — гэта куды?

Відаць, лепш за ўсё далей ад чыгункі. Чыгунка — Айчына для бамжоў. Калі міліцыя тут праводзіць аперацыю, то трэба кіраваць падалей ад чыгункі. Бывай, Айчына!

Ад Ратамкі дарогі ідуць у розныя бакі: на Астрашыцкі Гарадок, на Ракаў, на Вязынку...

Па адной з іх я і пакрочыла — далей ад чыгункі. Веяў сівер. Валянцін-Віталій пацягнуўся за мной.

Пад раніцу, змучыўшыся выцягаць ногі са снегу, мы прыйшлі да мэты — да Астрашыцкага Гарадка, Вязынкі, Ракава, у залежнасці ад таго, якую б дарогу мы выбралі.

Цяпер трэ было думаць, як уладкавацца тут, нам, двум бамжам, у сэрцы Беларусі, удалечыні ад чыгункі.

Развіднялася. Дымы падымаліся да неба. Пачыналася ранішняе жыццё, і я да яго прыглядалася. Куды тут пайсці, дзе абагрэцца Натальцы ды прымкнуламу да яе Валянціну\Віталію? (Халера, трэ ўжо перапытаць яго імя.)

Прыгожае беларускае мястэчка. З традыцыямі. Дамы на пагорку коса сядзяць радамі. Там вось, здаецца, крама. А вось школа — шыкоўная! О, здаецца, гэта прыбудова — кацельня. Мо туды? Качагар — сябра бадзягі. Гэта я вам з досведу кажу.

У кацельнай было цёпла, і нас нават напаілі чаем. Але далі зразумець, што доўга заставацца тут мы не можам — наставаў час школьнікаў.

І мы сабраліся далей — куды дарога завядзе.

Школьнікаў ужо падвозілі. З чорнага вялізнага джыпа, які вяла дама, выгрузіўся тлусты хлапчыска. Дама пайшла за ім — праводзіць. На ганку пацалавала хлопца, і той знік за дзвярмі, якія адчыняліся аўтаматычна. Спускаючыся з ганка, дама паслізнулася. Не ўпала, але абцасу — канец. Дастала з кішэні мабільнік:

— Это мама Стаса Іванова. У вас крыльцо нужно немедленно поремонтіровать. Я на нем каблук сломала. Нет, вы не понялі. Я мама Стаса Іванова. Да. Да. Всего доброго.

Не ведаю, хто штурхнуў мяне пад руку, але я выступіла вперад.

— Ізвініте, госпожа Іванова, не моглі бы вы дать мне телефон на мінутку, мне нужно позвоніть?

Не ведаю чаму, але мадам Іванова, пільна зірнуўшы на нас з Вінцэнтам (так, аказалася, яго завуць), працягнула мне свой даражэзны апарат. Я набрала нумар Варваркі.

— Доця, это я. Звоню тебе с чужого мобільніка, поэтому я быстро. Я поздравляю вас с Новым годом. Все нормально?

Голас Варваркі заспаны, цёплы...

— Мамачка, гэта ты?! Мамачка, дзе ты?

— Доця, як ты? Як Вася? Як тата?

— Мамачка, усё нармальна. Мы вельмі цябе чакаем. Калі ты вернешся?

— Всё, доця, я не могу больше говоріть, мне надо вернуть мобільнік. Пока-пока. Целую.

— Мама, мама, паслухай...

Я націснула кнопку з закрэсленым тэлефонам.

Вярнула тэлефон мадам Івановай і сказала «спасібо». Тая кіўнула і на зламаным абцасе паскакала да машыны. Праз хвіліну абярнулася і працягнула мне апарат зноў:

— Вам звонят, ответьте.

Я пакачала галавой.

— Скажыце, что меня уже нет поблізості.

Не, доця, не для таго я сыходзіла з дому, каб вярнуцца, мілая...

Да абеду мы з Вінцэнтам адышліся да іншага мястэчка. На пагорках коса сядзець радамі дамы. З традыцыямі мястэчка. Дзе тут школа?

Па дарозе нам насустрач ішоў хлопчык. Ранец за плячыма, караткаватыя рукавы паліто, абутак, аблеплены снегам.

— Мальчык, гдзе тут школа?

— А вось, — паказаў ён рукою на стары, яўна яшчэ польскага часу, драўляны будынак удалечыні.

— А кацельная там есть?

— Ёсць.

Хлопчык пайшоў далей.

Праз нейкі час я абярнулася. Наст адбіваў святло і сляпіў вочы. Па раскатанай пустой дарозе ішоў хлопчык на свой хутар.

А вось. Ёсць.

Авось ёсць яшчэ надзея.

Мы з Вінцэнтам пайшлі грэцца.

Паласатыя каты ў палоску, плямістыя каты ў плямы сядзелі на штакецінах платоў. Яны маўчалі.

Бібліятэка

# Д'яблавы восы, ці Сэкс, віно і кіно

Артур Клінаў напісаў постмадэрнісцкі раман.

За кнігу браўся з вялікімі сумневамі. Папярэднія раманы Клінава мне не вельмі добра заходзілі. І «Малую падарожную кнігу па Горадзе Сонца», і «Шалом» кідаў чытаць задоўга да канца. Гэтым жа разам праглынуў «Шклатару» за некалькі дзён.

Кнігарня «Логвінаў» падае гэты раман як «кнігу для сваіх». Канечне, у вялікай ступені — гэта гісторыі людзей, з якімі даводзіцца сутыкацца ў Фэйсбуку і на старонках незалежных выданняў, але «Шклатара» ўсё ж нашмат глыбейшая, чым проста кніга для «тусоўкі».

Клінаў напісаў добры постмадэрнісцкі раман. Тут ёсць усе яго прыкметы: шматслойнасць, цытатнасць, самаіронія, перапляценне рэальнага і нерэальнага. «Шклатара» атрымалася абсалютна чытэльнай. Відаць, будзе сярод галоўных прэтэндэнтаў на прэмію Гедройца.

Раман дзеліцца не дзве часткі, якія часам дзівосным чынам аб'ядноўваюцца. У першай — падзеі канца 2010 года. Выбары, Плошча. Напрыклад, Клінаў выдатна абыграў, на мой погляд, ці не самы сюррэалістычны момант 19 снежня, калі драматург Наталля Каляда гукала з помніка Леніну: «Галівуд з намі!» Ці кітайскія пухавікі валошынскіх (някляеўскіх) збіральнікаў подпісаў. А жоўты пясочак, якім пасыпаюць дарогу перад картэжам Імператара, наўрад ці лукашэнкаўцы даруюць гэта Клінаву.



Яшчэ ў кнізе ёсць сэкс (праўда, без асаблівага натуралізму), віно (шмат віна!) і кіно (аповед аб тым, як здымаўся першы «бульбахорар» «Масакра»). Галоўны герой разрываецца між дзвюма істэрычнымі жанчынамі. Віктар Марціновіч выказаў думку, што чытаць разборкі галоўнага героя з яго былой жонкай занудна. Але, з іншага боку, чытач любіць адхіленні ад нормы літаратурных персанажаў, так яму лягчэй лічыць нармальным сябе.

Калі раман аўтабіяграфічны (як казаў сам Клінаў), то баюся, што абедзве жанчыны не пагладзяць аўтара па галоўцы.

Аўтар не называе герояў сапраўднымі імёнамі і прозвішчамі, але яны лёгка пазнаюцца: выдавец Сцёпін (Ігар Логвінаў), рэжысёр Канаваленка (Андрэй Кудзіненка), кандыдат Макарэвіч (Алесь Міхалевіч), газета «Наша Гета» (думаю, самі здагадаецеся) і г.д.

Прызнаюся, кніга пакідае пачуццё дэкадансу і аўтарскага расчаравання. Хаця ён і імкнецца пакрыху выціснуць яго з сябе. Праўда, не зусім атрымалася зрабіць гэта.




Артур Клінаў. Шклатара. Логвінаў, 2013.

У аснову другой часткі лёг сцэнар фільма «Шляхціч Завальня», які так і не зацвердзіла рада пры Міністэрстве культуры. Падзеі разгортваюцца зімой 1881 года. Галоўны герой — збяднелы шляхціч Ян Завальня — вяртаецца з Пецярбурга на Радзіму. І сустракае незнаёмы дагэтуль містычны край — з д'яблавымі восамі, вядзьмаркамі, ваўкалакамі і чалавекам-карпам. Гэткі мікс з Караткевіча, Баршчэўскага, «Масакры», беларускіх казак і паданняў і шмат чаго яшчэ.

Як аказалася, усе гэтыя містычныя істоты нейкім чынам удзельнічаюць у барацьбе за свабоду краіны. Пачвары накіроўваюць Яна... Куды? Даведаецеся ў кнізе.

Зміцер Панкавец

## КАНЦЭРТЫ

### «Аліса»

**30 студзеня а 19-й у клубе Re:Public (Прытыцкага, 62)** выступае расейскі гурт «Аліса» з юбілейнай праграмай, прысвечанай 30-годдзю гурту.

### SaXaS

**30 студзеня а 19-й у Палацы прафсаюзаў** Бах грае джаз: квартэт саксафаністаў SaXaS.

### Гра[м]нічны канцэрт

**3 лютага а 19-й у паб-клубе «Графіці» (зав. Калініна, 16)** — гра[м]нічны канцэрт гітарыста і аўтара песень Яўгена Барышнікава.

## ВЫСТАВЫ

### Згубленыя ключы дзяцінства

**У Гарадской галерэі Шчамялёва (пр.Ракасоўскага, 49)** працуе выстава бацiку Алы Шкарадзёнак. Для Алы Шкарадзёнак, аўтара выставы «Згубленыя ключы дзяцінства», творчасць — спроба вярнуць сабе па-дзіцячы радаснае ўспрыманне свету, адшукаць згубленыя ключы да так патрэбнага стану шчасця, які так лёгка даецца дзецям.

### Бог сялянскі, хрысціянскі. Бабіцкая ікона

**Выстава «Бог сялянскі, хрысціянскі. Бабіцкая ікона»**, што экспануецца ў Мастацкім музеі (Леніна, 20), — сумесны праект Веткаўскага музея стараабрадніцтва і Чачэрскага музея. На ёй дэманструецца ўнікальная з'ява нацыянальнай культуры — бабіцкі народны іканапіс. Менавіта ў вёсцы Бабічы Чачэрскага раёна жылі і тварылі першыя сяляне-іканапісцы, пра што згадваецца ў дакументах яшчэ ў канцы XIX ст. На выставе прадстаўлена 38 ікон з самымі разнастайнымі сюжэтамі.

### Роберт Генін. У пошуках раю

**У Мастацкім музеі (Леніна, 20)** працуе выстава «Роберт Генін. У пошуках раю», прымеркаваная да 100-годдзя першай персанальнай выставы мастака ў Мюнхене. Ураджэнец Беларусі Роберт Генін атрымаў мастацкую адукацыю ў Вільні і Адэсе, а жыў і працаваў у Германіі, Швейцарыі і Францыі. Поўны энтузіязму, прыязджае ў Маскву, каб аздобіць сцэны грамадскіх будынкаў. Трагічна пайшоў з жыцця ў 1941-м.



У крэатыўнай прасторы ЦЭХ (пр. Незалежнасці, 58/6) 1 лютага адбудзецца музычны марафон Talaka.Party. Канцэрт будзе доўжыцца 12 гадзін, падчас яго выступяць 16 беларускіх гуртоў розных стыляў і накірункаў: ад J:mors да ili-ili. Уваход бясплатны, але папярэдне трэба зарэгістравацца на party.talaka.by.







### «Даём рады»

7 лютага ў клубе Re:Public у другі раз пройдзе фестываль «Даём рады». Падчас яго Еўрарадыё падвядзе музычныя вынікі 2013-га года. Плануецца выступ Neuro Dubel, «Дай дарогу!» і іншых музыкаў.

### Настаўнік і вучні

**100-годдзю з дня нараджэння прысвечана выстава Паўла Масленікава «Настаўнікі і вучні»**, што экспануецца ў Мастацкім музеі (Леніна, 20). Павел Масленікаў — прызнаны майстар пейзажнага жывапісу і тэатральна-дэкарацыйнага мастацтва Беларусі XX стагоддзя. Тэатральны мастак, пейзажыст, мастацтвазнаўца і педагог, прыхільнік класічных традыцый у мастацтве, ён надзвычай цаніў прафесіяналізм і майстэрства.

## ТЭАТРЫ

### 30 студзеня

**Беларускай драматургіі** — Купала. Кругі раю
**Купалаўскі** — Выкраданне Еўропы, альбо Тэатр Уршулі Радзівіл
**Лялек** — Марынка-крапіўніца
**Юнага гледача** — Ліса і вінаград

### 31 студзеня

**Беларускай драматургіі** — Містар Розыгрыш
**Купалаўскі** — Translations
**Лялек** — Чаму старэюць людзі?..
**Оперы і балета** — Лебядзінае возера
**Юнага гледача** — Тарас на Парнасе

### 1 лютага

**Купалаўскі** — Вечар
**Лялек** — Марозка
**Оперы і балета** — Набука
**Юнага гледача** — Прыгоды Бібігона, Маленькі лорд Фаўнтлярой

### 2 лютага

**Купалаўскі** — Паўлінка
**Лялек** — Кот у ботах
**Оперы і балета** — Алека. Балеро
**Юнага гледача** — Пані Завіруха

### 4 лютага

**Оперы і балета** — Багема

### 5 лютага

**Беларускай драматургіі** — Нямое каханне
**Оперы і балета** — Шчаўкунок
**Юнага гледача** — Міхалава зямля

## КІНО

### Па слядах аднаго міфа

Геракл: пачатак легенды
Баявік, прыгоды

**Рэжысёр:** Рэні Харлін
**У ролях:** Келан Луц, Скот Эдкінс, Гая Вайс, Раксана Макі, Лаям Макінтайр, Радэ Сербеджыя
ЗША, 99 хв.

Старажытная Грэцыя. Царыца Алкмена, уражаная неймавернымі зверствамі, здзейсненымі яе мужам, царом Амфітрыёнам, моліць багіню Геру паслаць збавіцеля. Жрыца Геры прадказвае, што Алкмена народзіць дзіця ад Зеўса, галоўнага бога Алімпа. Сына павінны назваць Гераклам. Так і адбываецца, але Амфітрыён падазрае Алкмену ў здрадзе, сына называе Алкідам, а свайм пераемнікам лічыць старэйшага Іфікла. Пра 20 гадоў братам давядзецца не раз паспрачацца. Асаблівую зайздрасць выклікае ў Іфікла тое, што Геба, прынцэса Крыта, аддала сваё сэрца Алкіду... Фільм спасылаецца на сюжэт з грэцкай міфалогіі, але пакідае ад тых падзей хіба што імёны галоўных герояў. Геракл выглядае гарой цягліцаў, нязводьнай праяўляць ні эмоцый, ні асаблівага розуму. У цэнтры сюжэта — каханне да прынцэсы Гебы, якое дае сілы галоўнаму герою адольваць выпрабаванні, а подзвігамі тут нават не пахне (забойства Нямейскага льва падаецца выпадковасцю і ідзе на карысць Іфіклу). І нават відовішчасцю стужка не ўражвае: бясконцыя слоу-мо ў бойках раздражняюць, а намаляваныя дэкарацыі і эфекты надзвычай ненатуральныя.

**Настасся Уласава**



# Спартак Мірановіч: Дзеці добрыя бегаюць, але некуды знікаюць

Вынікі мужчынскага гандбольнага чэмпіянату Еўропы мы падвялі з **легендай сусветнага гандбола**, трэнерам мінскага СКА Спартаком Мірановічам.

**«Наша Ніва»: Дванаццатае месца ў Еўропе — яно адлюстроўвае стан сённяшняга беларускага гандбола?**

**Спартак Мірановіч:** Думаю, так. Добрае, нармальнае месца. Мне здаецца, што сёння б многія зборныя марылі аказацца там. Маглі, канечне, быць вышэй. І ніжэй маглі. Шмат ад чаго залежыць. Ад таго самага лёсавання.

**«НН»: Важным застаецца факт нашага лідара Сяргея Рутэнкі, гульня якога не вельмі задалася ў Даніі.**



**Спартак Мірановіч**

Нарадзіўся ў 1938 у Магнітагорску (Расія). Скончыў Гомельскі педагагічны інстытут (1963). Ад 1966 — на трэнерскай працы. Ад 1976 да сённяшняга дня — бязьменны трэнер мінскага СКА. Былы трэнер зборнай СССР, з якой выйграваў дзве Алімпіяды. Разам са СКА тройчы выйграваў Кубак еўрапейскіх чэмпіёнаў.




Расійскія гандбалісты спынілі палёт беларускай зборнай.

**СМ:** Так, ён лідар. Аднак, калі гульня ў лідара не заладжваецца, то трэба мець альтэрнатыўныя варыянты развіцця. А не працягваць гуляць праз Рутэнку. Канечне, гэта не вельмі добра.

**«НН»: Калі прайсціся па персаналіях, то каго б Вы маглі адзначыць на гэтым чэмпіянаце?**

**СМ:** Шчыра кажучы, усе біліся, усе былі гатовыя паказаць максімальны вынік. Аднак ніхто не паказаў свае найлепшыя якасці. Стараліся, але кагосьці асобна не пахваліш. Многае чакалася ад Барыса Пухоўскага, але ён прыхварэў, быў не ў аптымальнай форме. На жаль, лаву запасных маем вельмі кароткую — гэта і ёсць наша галоўная праблема.

**«НН»: Падалося, што слабей за ўсё выглядалі брамнікі.**

**СМ:** Гэта праўда. Нельга сказаць, што яны гулялі годна. Калі варатар адбівае 40—50% кідкоў, то гэта амаль гарантыя перамогі каманды, калі 20%, то дабіцца такога выніку значна цяжэй. Параўноўваць з брамнікамі Францыі ці Іспаніі, які тварылі цуды, проста немагчыма.

**«НН»: Францыя заслужана стала чэмпіёнам?**

**СМ:** Канечне. Яны паказалі ўзровень. У французаў няма слабых пазіцый. Але асабіста я б адзначыў заднюю лінію «трохкаляровых». Такая моц, што нават не прысніцца. Нікаля Карабаціч — сапраўдны лідар французаў.

**«НН»: Каб выйсці на чэмпіянат свету-2015, беларусы будуць змагацца з чарнагорцамі. Як Вам вынікі лёсавання?**

**СМ:** Прынамсі, расстройства няма. Не самы кепскі варыянт. Магло быць нашмат горш. Летась, калі мы спаборнічалі са славенцамі, было нашмат цяжэй.

**«НН»: Ці ёсць рэзерв для ўмацавання сённяшняй зборнай?**

**СМ:** Дзеці бегаюць вельмі добрыя. У нас заўсёды ёсць моцныя склады ў юнакоў. Але не дарастаюць яны да дарослага гандбола. Так было з хлопцамі 1988 года нараджэння, 1990, 1992. Ва ўсіх было па 30—40 добрых хлопцаў, а як выраслі, то нікога і не засталося.

**Гутарыў Зміцер Панкавец**

**Гандбол**

камандная гульня з мячом 7 на 7 гульцоў (па 6 палявых і брамнік у кожнай камандзе). Мячы закідваюцца рукамі. Гуляецца два таймы па трыццаць хвілін.

**Выніковае становішча каманд Еўра-2014**

1.Францыя 2.Данія 3.Іспанія 4.Харватыя 5.Ісландыя 6.Польшча 7.Швецыя 8.Венгрыя 9.Расія 10.Македонія 11.Аўстрыя 12.Беларусь 13.Сербія 14.Нарвегія 15.Чэхія 16.Чарнагорыя.



**Фотафакт**

Швейцарац Станіслас Ваўрынка ўпершыню ў гісторыі перамог у турніры Вялікага шлема. У фінале «Аўстраліян Оўпэн» ён аказаўся мацнейшым за першую ракетку свету іспанца Рафаэля Надаля. Прычым, гэта была першая перамога Станісласа над Рафаэлем у трынаццаці гульнях.

Дзяды і бацькі Станісласа трымалі цэнтр сацыяльнай рэабілітацыі для інвалідаў. Гэта паўплывала на яго як чалавека. «Я ведаў, што ў жыцці ёсць рэчы, больш страшныя за прайграны матч. Але, з іншага боку, гэта не значыць, што я павінен здавацца».

Ваўрынка мае польскія і чэшскія карані. Яму 28 гадоў. Жыве ў вёсцы Сэн-Бартэлемі ля Лазаны. Жанаты з мадэлькай Ільхам Вілаўд, гадуюць дачку.

Перамога ў Мельбурне дадасць тэнісісту два мільёны даляраў і ўзлёт на трэці радок рэйтынга АТП.

## Сцісла

**ПСЖ хоча купіць Месі за 250 млн еўра**

Трансферны рэкорд належыць «Рэалу», які набыў паўабаронцу «Тотэнхэма» Гарэта Бэйла за 100 мільёнаў еўра.

**Хагуш вярнуўся ў БАТЭ**

Першы абхазец, які гуляў у Лізе чэмпіёнаў, вярнуўся ў БАТЭ. За барысаўцаў ён выступаў у 2006—2007. Потым туляўся па расійскай правінцыі, а апошні год правёў у жодзінскім «Тарпеда».

**Аляксей Грышын: Еду па золата**

Фрыстайліст, алімпійскі чэмпіён Ванкувера-2010 Аляксей Грышын сказаў, што ў Сочы ён едзе, каб пацвердзіць свой тытул. «Хачу заваяваць трэці медаль — золата і бронзу ўжо маю. Але гэта не значыць, што еду па срэбра. Буду змагацца за золата».

**«Беркут-2» памяняў назву**

Кіраўніцтва ўкраінскага хакейнага клуба «Беркут-2» у сувязі палітычным становішчам у краіне прыняло рашэнне змяніць сваю назву на «Фенікс». «Беркутам» таксама называецца ўкраінскі спецназ.

**Наступны чэмпіянат — у два этапы**

Чэмпіянат Беларусі па футболе зноў будзе дзяліцца сёлета на шасцёркі пасля 22 тураў першынства. Праўда, на гэты раз ніхто не пакіне эліту. Бо ў 2015 плануецца павелічэнне лігі з 12 да 14 каманд.

**ЗП**

## Азаранка адмовілася выступаць за зборную Беларусі

З 4 па 9 лютага ў Будапешце пройдуць матчы 1-й групы еўра-афрыканскай зоны Кубка Федэрацыі па тэнісе. У групе D выступіць каманда Беларусі разам са зборнымі Балгарыі, Партугаліі і Турцыі.

У складзе беларускай каманды не будзе аднаго з лідараў сусветнага тэніса, другой ракеткі свету Вікторыі Азаранкі. Дадзеная інфармацыя стала вядомая са слоў капітана каманды Таццяны Пучак, якая толькі нядаўна вярнулася з адкрытага чэмпіянату Аўстраліі па тэнісе. Капітан беларускай каманды сустракалася ў Мельбурне з Вікторыяй і атрымала ад яе афіцыйную адмову ад удзелу ў турніры.

Раней Вікторыя пацвердзіла гэты факт у рамках прэс-канферэнцыі пасля паразы ад Агнешкі Радваньскай з Польшчы на стадыі 1/4 фіналу адкрытага чэмпіянату Аўстраліі па тэнісе.

**«Прессбол»**

**Абмеркаванне на nn.by**

Ну хоць нейкая годнасць засталася ў спадарыні найлепшай тэнісісткі!

**Чытач**

Відаць, не спадабаліся «пацаначцы» «бацькавы» булачкі...

**Сяргей**

Непрыгожы ўчынак.

**Мікіта**

Каму патрэбны гэты Кубак Федэрацыі, хто за ім сочыць ці каму ён цікавы? Азаранцы ён дакладна не патрэбны. Хапае больш сур'ёзных турніраў і без яго. Хай маладняк руку набівае.

**Васіль**

Пачала пісаць губернія... Яна адмовілася выступаць за зборную толькі ў гэтым розыгрышы Кубка Федэрацыі, а не ад беларускага грамадзянства.

**Дняпро**



**Байцы «Беркута» фатаграфуюцца на фоне спаленых аўтамабіляў падчас сутыкненняў з дэманстрантамі ў Кіеве. Супрацьстаянне на вуліцы Грушэўскага перайшло ў сілавую стадыю і прывяло да гібелі некалькіх чалавек. Больш пра падзеі ва Украіне — старонка 2.**



НАСТАССЯ ХРАЛОВІЧ

**У Мінску прайшло высвячэнне новага каталіцкага біскупа Юрыя Касабуцкага (у цэнтры). Яму 44 гады. Касабуцкі будзе дапаможным біскупам на Мінскай катэдры.**




**Фатограф Рэнатас Якайціс ужо 15 гадоў фатаграфуе жывую прыроду. Дзівосны фотаздымак «трохгаловай лані» апынуўся на першай старонцы партала dailymail.co.uk. На самой справе на здымку не адна трохгаловая лань — але тры лані, якія проста ішлі адна за адной.**



**Прэзідэнт Францыі Франсуа Аланд афіцыйна абвясціў, што разрывае адносіны з Валеры Трыервейлер. Аланд і Трыервейлер былі парай з 2007 года, аднак афіцыйна яны шлюбам не пабраліся.**

## Анекдоты і жарты

* * *

— Як будзе называцца партыя ўлады ў Беларусі?

— А так і будзе: Партия власти Республики Беларусь.

* * *

Заробак кажа:

— Давай сходзім куды-небудзь?

Я адказваю:

— Дома сядзі, маленькі яшчэ.

* * *

У сувязі з глабальным пацяпленнем і немагчымасцю даць дакладны прагноз надвор'я Белгідраметэацэнтр аб'явіў бестэрміновую забастоўку.

* * *

Яцанюк — прэм'ерам, а Цягнібок? А лідар «Свабоды» Алег Цягнібок прызначаны паслом у Расіі.

* * *

Супрацоўнікі банкаў чытаюць сваім дзецям нанач добрыя крэдытныя гісторыі.

* * *

Калі вы часта ўгадваеце лічбы ў латарэях, канцы гэтыя глупствы, займіцеся сейфамі.

## «НН» сто гадоў з вамі

### Санэт

Прынадна вочы зззяюць да мяне;
Чароўна ўсміхаючыся, губы
Адкрылі буйныя, бялеючыя зубы...
Ласкавы шэпт... Гарачай хваляй мкне

Кроў к сэрцу маяму. Мана ўсё або не?
Ці верыць мілым абяцанкам любы?
Мо гэта жар, пылаючы для згубы,
Хавае сцюжу пад сабой на дне.

Так, іншы раз, над соннаю зямлёю
Агністаю дугою залатою
Прарэжа цемень яркі метэор.

Гарыць ён, іскры сыпе і нясецца
Бліскаючы мацней ад яркіх зор, —
А ў глыбіні халодным астаецца.

*Максім Багдановіч.*

**«НН». №4. 1914.**

**Абвал школы ў Краснаполлі** здарыўся 27 студзеня ў 9:20, падчас урока фізкультуры. У зале знаходзілася 47 вучняў і 3 настаўнікі. Спартовая зала знаходзілася ў сярэдзіне будынка на другім паверсе, па яе перыметры ішлі класы. Таму краны не даставалі да завалаў, даводзілася разбіраць рукамі». На месцы загінуў вучань Віктар Баброў, а настаўнік фізкультуры Пятро Любашэнка памёр у бальніцы.

**«НН», №4, 2004**

**Наша Ніва**

незалежная газета

заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991

галоўныя рэдактары «Нашай Нівы»:
З.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906—1914),
Янка Купала (1914—1915), А.Луцкевіч,
У.Знамяроўскі (1920), С.Дубавец (1991—2000).

сакратарка рэдакцыі Таццяна Кур'ян
шэф-рэдактар Андрэй Дынько
намеснікі галоўнага рэдактара Ягор Марціновіч, Зміцер Панкавец
галоўны рэдактар Андрэй Генадзевіч Скурко
заснавальнік Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»
выдавец Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»

АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:
220050, Мінск, а/с 537
Tel/fax: (017) 284-73-29, 8-029-613-32-32,
8-029-707-73-29.
E-mail: nn@nn.by
On-line: www.nn.by

**Падпісны індэкс:**
індывідуальны — **63125**
для прадпрыемстваў — **631252**


8 палос фарматам А2, 4 друк. арк. Друкарня Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/0494179 ад 03.04.2009. Пр. Незалежнасці, 79, 220013, Мінск. Рэдакцыя не нясе адказнасці за змест рэкламных абвестак. Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання №248 ад 22 чэрвеня 2009 г., выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Юрыдычны адрас:220030 г.Мінск, вул.Энгельса, 34а. Р/р 3012206280014 у МГД ААТ «Белінвестбанк», Мінск, код 764.

Наклад 8002. Газета выдаецца 48 разоў на год.
Нумар падпісаны ў друк 16.30 28.01.2014.
Замова №294.
Рэдакцыйны адрас:220030 г.Мінск, вул.Энгельса, 34а.
Цана дамоўная.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

ISSN 1819-1614
9 771819 161008 14004